# ДОСЬВІТКІ

Ілюстраваны літэратурна-мастацкі Беларускі месячнік.

№ 1. КРАСАВІК 1927

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі
WILNO, Niemiecka Nr. 1 „Sokołowski“ Nr. 10.

| ПАДПІСКА: | у краі | за граніцу |
|---|---|---|
| на год | 10 зл. | 14 зл |
| „ поу году | 5 „ | 7 „ |
| „ 3 мес. | 3 „ | 4 „ |

Цана нумару 1 зл.



## АД РЭДАКЦЫІ.

Узрост Беларускай Нацыянальнай сьвядомасьці вызывае ўсё большае запатрэбаваньне на беларускую кнігу. Нажаль гэтае запатрэбаваньне нат ў малай частцы ня можа быць здаволена.

З аднаго боку дзеля таго, што кніга з Меншчыны, дзе беларускае пісьменства пачынае цьвісьці пышнай кветкай — дзякуючы палітычным варункам ня можа быць даступнай шырокім колам чытачоў Заходняе Беларусі, з другога—тутэйшыя беларускія кіраўнічыя „сфэры“ дзякуючы палітыканству кіраўнікоў паасобных партыяў і групаў і іх імкненьню рабіць сваю палітычную кар‘еру, настолькі захоплены палітыкай, што на культурную працу ўдзеляюць толькі столькі ўвагі, колькі гэта патрэба для іх палітычных мэтаў. Гэтыя-жа палітычныя мэты разьбілі агульны нацыянальны фронт і дзякуючы гэтаму зрабілі немагчымым наладжаньне культурнай працы ў шырокім маштабе.

І вось у той час, як палітычныя часопісі ўсьцяж растуць і ўносяць у народныя масы атруту партыйнай ненавісьці і грызьні, выдавецкая справа стаіць наагуль вельмі дрэнна.

Сотні і тысячы кідаюцца на палітыку, а на выдавецтва—ўдзеляюцца толькі нейкія грошы. У рэзультаце — пачынае выяўляцца кніжны голад, дзесяткі твораў месцовых пісьменьнікаў і мастакоў — ляжаць у партфэлях нашых гэнэралаў і ніяк ня могуць дачакаць выхаду ў сьвет.

Праўда, апошнія часы прыкмечаецца нейкая паправа: ажыўляецца выдавецтва, выходзіць пара часопісаў, прысьвячаных навуцы, гаспадарцы.

Але дагэтуль ня было і няма часопісі, прысьвячанай выключна літэратуры і мастацтву.

І вось, каб запоўніць гэты прабел і стаць у ровень з патрэбнасьцяй у ілюстраванай часопісі, мы і прыступаем да выданьня нашых „Досьвіткаў“.

Лічучыся з месцовымі варункамі, мы пакуль-што ня можам прэтэндаваць на тое, што дамо нешта асабліва выдатнае. Бо-ж гэта толькі спроба, першая ластаўка. Аднак па меры павялічэньня ліку супрацоўнікаў, „Досьвіткі“ будуць пашырацца і адчыняцца новыя аддзелы і мы думаем, што ўжо з наступных нумароў нам удасца падняць ровень нашага журналу на належную вышыню.

Дзеля гэтага мы згары просім нашых чытачоў аднесьціся поблажліва да недастачаў, якія ёсьць, а крытыкаў, асабліва тых, якія любяць падыходзіць да апэнкі ўсякіх культурных пачынаньняў з меркай партыйнасьці і апэніваць працу не па яе ўласьцівай вартасьці, з прыняцьцем пад увагу месцовых варункаў, а толькі з пункту гледжаньня таго, хто гэтую працу вядзе: свой, г. зн. аднамысьнік групы таго гэнерала, да якой належыць крытык ці нехта чужы, з другой групы,—просім хоць раз здабыцца калі не на аб‘ектыўнасьць, дык на зразуменьне таго, што пачатая намі праца патрэбна і нельга з ёю змагацца дасюлешнімі мэтадамі лаянкі пад лёзунгам „ad majorem маей партыі gloriam“.

Усіх нашых краевых і замежных пісьменьнікаў і мастакоў запрашаем да супрацоўніцтва. Пара нашай культурнай працы выйсьці з душнай атмасфэры партыйнай гурткоўшчыны, забыцца аб тое, што істнуе палітыка, якая толькі дзеліць людзей і робячы іх ворагамі—тамуе культурнае разьвіцьцё мас.

Родная культура павінна быць вышэй усіх партыйных розьняў, усялякіх партыйных інтарэсаў. Мы не настолькі яшчэ культурна багаты, каб мелі права разьбіваць свае культурныя сілы па адзнакам прыналежнасьці да нейкай партыі ці групы.

Кожнаму сваё: хай палітыкі грызуцца і дзеляцца. Пісьменьнікі і мастакі, наагул культурнікі — належаць не партыі а ўсей Нацыі, усяму Народу.

І мы клічам усіх, хто блізка да сэрца бярэ справы нашай роднай культуры—еднаць свае сілы і супольнай працай узьнясьці гэтую культуру на тую вышыню, якая адпаведае традыцыі яе прошласьці, гонару 14-ці мільённага Народу і нашым імкненьням да сьветлай яго будучыні.

„Гэй, вольныя птахі, патомкі Крывічаў!
„Да неба! на зоры гром пяруновы...
„Бы крыльле расправіць—пагудка ўжо кліча,
„Ўжо віхры цярэбяць да шчасьця шлях новы“!

(*Я. Купала*).

---

*ЯСАКАР. (З. БЯДУЛЯ).*

# *Беларусь.*

*Ты — летапісь з аповесьцяў вячыстых,*
*Акроплены сьлязамі дудароў.*
*Ты — яснацьвет ад водгульляў агністых*
*Жняёў, касцоў і старцаў — пастыроў.*

*У залатой кудзелі гучных сьпеваў*
*Дрыжыць твой бор, сумуе твой гушчар.*
*Дзед—чараўнік стаіць пад кожным дрэвам,*
*Балота сьпіць пад вэльмам зорных чар.*

*Тваe лугі сьняць сны аб гуках начных,*
*Аб вогнішчах начлежных дзяцюкоў.*
*Пад гуд віхроў, варожбаў сьвета—змрочных*
*Тчэ глебны дух абраднасьці вякоў.*

*Сам Госпад-Бог хадзіў тут па зямліцы,*
*Усюль зіхцяць — відаць Яго сьляды.*
*Па тых сьлядох красуюцца капліцы,*
*Па тых сьлядох брыдуць у даль Дзяды.*

*Зышліся тут Ярыла з Божым Сынам,*
*Сьвятая Маці з Доляю жыве,*
*У цяні дубоў пад старадаўным тынам*
*Ільля й Лясун рассьеліся у траве.*

*Тут кожны крок абвеен казкай сівай,*
*Што ручаёк — жалосных сьпеваў жмут.*
*Шурпаты пень на лузе, ці на ніве —*
*Нязнаны дух, або таемны цуд.*

*Тут воўк — ня воўк, а чалавек закляты,*
*Тут корч — ня корч, а той-жа селянін,*
*А бусел — птух — ня птушка, а араты,*
*Вартуе Дзіў абшар лугоў, далін.*

*А курганы, а замчышчы, званіцы,*
*А пустыроў сьвятая цішыня;*
*А гнёздаў — мест ліхтарні — зараніцы,*
*А вышкі гор, а рэчак глыбіня...*

*Усё жыве жыцьцём Дзядоў адвечных,*
*Тут кожны век пакінуў знак — пячаць.*
*Па тых знакох—па тых шляхох, па млечных*
*Ідуць сыны свой край адбудаваць.*

*І край магіл, той край, дзе жыў Скарына,*
*Зноў нарадзіў прарокаў і байцоў:*
*Ідуць — брыдуць, бы Нёман з месца рынуў,*
*Бы грамада узброеных касцоў.*

*Іх кліч грыміць, як зычны хор грымотаў,*
*Як буралом, імчыць у горны сьвет.*
*Дрыжыць зямля ад нізаў да высотаў,*
*Праменьніць даль Купальскі агняцьвет.*

*Васкросьлі зноў багі сівых Калядаў,*
*Ратай ім сьпеў кідае на агонь.*
*Хто на аўтар падсыпне зельле здрады,*
*Таму увесь край шле жудасны праклён.*

(*„Пад родным небам“. Менск. Зборнік вершаў*).

ЯНКА КУПАЛА.

# Лясное возера.



*Дрэмле абсаджана лесам адвечным,*
*Цінай засланае возера у лесе;*
*Шастае сьціха асока і аер,*
*Цудныя казкі куст з кустам шапоча.*

*Сосны і вязы, дубы і асіны*
*Вокала возера вартай пасталі,*
*Долу ківаюць паклоны нямыя,*
*Небу малітву таемную твораць.*

*Возера! Возера! Йду к табе смутны*
*Соннаю пушчай, амшалаю сьцежкай, —*
*Жоутае лісьце шасьціць пад нагамі,*
*Шчокі калючка сасновая шчыпе.*

*Сам з сабой на—сам пад дубам саджуся,—*
*Вочы і думкі пабеглі далека...*
*Сьціпіна над возерам, воблачна у небе...*
*Недзе запелі Узьвіжаньне гусі.*

*Акопы. 10. VIII—19 г.*

*(„Безнавоўнае“ — зборнік вершаў; Менск).*

І НІКІЦІН.

* * *

Выкапана рыдлям яма глыбокая...
Жыцьцё невясёлае, жыцьцё адзінокае!
Жыцьцё бязсхоўнае і церпялівае,
Жыцьцё, бы васеньняя ночка, маўклівае!
Прайшло яно горка, бяз цэлі, дарма,
І бы аганёк той, пагасла, няма!

Што-ж?.. Сьпі ўжо доля мая суровая!
Моцна замкнецца дамавіна сасновая,
Шчыльна засыпяць зямлёй яе людзі,
Адным чалавекам менш толькі будзе!
Быў і няма... страта нязначная,
Ей не займецца і памяць няўдзячная!

Вось яна... чуецца песьнь безклапотная,
Госьця палёў, пявуньня залётная,
У сінім паветры, на волі купаецца,
Бы серабро зьвініць, рассыпаецца...
Годзі! Быльлём шлях жыцьця ўжо парос...
Ня трэ ўжо болей, ні песьняў ні сьлёз...

**Пераклаў Б. Друцкі.**

# Гэніяльная ідэя.

Табе, табе бязвольны дружа!
Я фэльетон свой ахвярую!...
Аўтар.

Калі літэрат Сянюк зайшоў да свайго прыяцеля-вучыцеля Забубніцкага — застаў яго ў страшэнна сумрачным настрою — сядзіць за сталом, не адзеты, ня — голены, нэрвуецца, дый паліць папіросу за папіросай...



— Разумееш браток — пачаў ён зараз-жа жаліцца Сянюку — атрымаў пісьмо... Вось прапануюць пасаду і на‘т грошы прыслалі, каб хутчэй прыяжджаў... я пакуль сабраўся, дык грошы праеў і вось... Сяджу на мейсцу — і ня выехаць, і грошы ня зьвярнуць... А пасада добрая, і добра аплачваецца...

— Дык ты бы што небудзь прадаў, ці ў заклад адиёс — парадзіў Сянюк...

— Дарагі мой, ці-ж ня ведаеш, што я ўжо больш году, як безработны — усё што мог ўжо прадаў... А закладваць няма чаго...

— Ну гэта горэй — і літэрат азірнуўся па пакоі — а гэта чаму-ж не прадасі?!...

— Што?! Пальто?!... А як-жа я сам?!...

— Ну абойдзешся, — цяпер-жа лета... А да зімы далёка... Паправішся і купіш новае...

— А браток ты мой! Ідэя! — ажывіўся Забубніцкі — як жа-ж я сам гэта не дадумаўся!... Сьмеху варта — сяджу гарую, а ратунак вось вісіць... Вось дзякую!... Вось, друг сэрдэчны, выратаваў!...

— Ну, браток, паменш дзякуй, ды гутары, а апранайся!... Бяры пальто і пойдзем... Праз паўгадзіны прыяцелі былі ў знаёмага Іцыка. Той сьціраваў да Зільбэрмана, а Зільбэрман, які не скупляў гэтакіх рэчаў, сьціраваў да Эпштэйна, Эпштэйн да Срулевіча, Срулевіч да мадам Абрашкінай, і пальто нарэшце было прададзена... І як раз за такую суму, што хапала на пераезд і на‘т на „харчы“ ў дарозе...

— Вось дзякую!... Вось выратаваў!... — Паўтараў усё задаволены Забубніцкі — за гэтакую ідэю варта было-б і на чарцы... Але не, браток... ужо ў іншы раз, прыеду ў новым пальце. . А цяперака — ведаеш — зайдзем і зьядзем кваснага малака з бульбай...

— І гэта добра! — згадзіўся Сянюк — бо горача, а халоднае малако, як раз у пару...

Зайшлі ў малочную, але кваснага малака ня было... Зайшлі ў другую, у трэцюю — гэтак сама няма...

— А ведаеш, калі ўжо на гэта пайшло, дык я табе зафундую абед, але-ж... на самых скромных пачатках... „жандовы“ — за залатоўку...

— Дык глядзі-ж, каб больш а ні-ні!... Каб гарэлкі зусім ня было — быццам ні то пажартаваў, ні то ў сур‘ёз сказаў літэрат...

— Што ты, што ты?!...

Зайшлі да „Мацея“... Як раз быў абедзенны час, і народу шмат... Прабраліся паміж столікамі і скрамнютка ўселіся ў кутку...

— Dla panów 2 razy obiad i wódeczka maleńka?!...

— Не паночку... Гарэлкі ня трэба—толькі абед...

Азірнуліся... Як на грэх за суседнім столікам сядзела кумпанія і відаць багатая, бо ўвесь стол быў застаўлены рожнымі закускамі і бутэлькамі... І гэтак яны апэтытна і смачна чокаліся, выпівалі і заядалі, што ў нашых прыяцелёў, аж засмактала пад лыжачкай...

— А ведаеш браток — нахіліўся Забубніцкі да літэрата — ты ўжо мяне выратаваў і выбачай, каб за гэтакую гэніяльную ідэю, што прышла табе ў галаву ды мы-б, цяперака ня выпілі



і пальто нарэшце было прададзена...

па чарцы, дык гэта ўжо будзе сьмех, а нават і грэх...

— Але-ж... я не пратэстую... а ці хопіць табе на дарогу?!...

— Хопіць, хопіць... Ня бойся!...

— Ну дык .. Толькі самую маленечкую карафку...

Маленечкую, маленечкую... і... па піражку... Як той казаў, быццам-закусачка перад абедам...

— Падай маленькую карафку і талерку піражкоў — сьвежанькіх, гарачанькіх, румяненькіх...

— А чаму-ж талерку?!... Я прасіў толькі 2 піражкі?!...

— Ну колькі зьясьцё... За рэшту ўсё раўно плаціць ня будзеце — засьмяяўся лёкай...

Выпілі па чарцы і заелі піражком... Жыціельная ўлага прайшла па ўсім жылкам аж у вочах пасьвятлела... Загутарылі весялей і не заўважылі, як закончылі карафку... Падалі абедзеннае мяса... Але ні той, ні іншы нешта не

пачыналі есьці, а неяк зіркалі адзін на аднаго...

Гым! — кракнуў літэрат і ўзяўся за відэлец...

Забубніцкі неяк заварушыўся...

— А ведаеш, браточка, дзе ўжо нашае не прападала!— Давай яшчэ маленечкую зробім?!...



зайшлі да Мацея.

Літэрат маўчаў, быццам ня чуў і толькі з асьцярвяненьнем пачаў краіць мяса...

— Маленечкую... апошнюю — шаптаў Забубніцкі — вось вып'ем і да хаты ўкладвацца, а заўтра — гайда і на цягнік... І калі крыху ня хопіць, дык у дарозе пагаладаю... і ўсё будзе ў парадку...

Астатні аргумэнт падзеяў на літэрата...

— Ну калі апошнюю, дык я згаджаюся... але каб больш—а ні-ні!... І прашу цябе не намаўляй, бо ўсё роўна я ні за што больш піць ня стану...

Падалі яшчэ маленькую карафку і калі яе апарожнілі, ужо сам літэрат падняўся і з буфэта прыцягнуў нейкага дэлікатэса і бутэльку „сартовае" гарэлкі... Пасьля за ідэю і ратунак Забубніцкі паставіў каньяку... Пасьля пілі каву, лікёр.-. пеялі... цалаваліся... абніміліся...

Падсела нарэшце нейкая паненка і пачалі ізноў з пачатку... Закускі, гарэлка...

Забубніцкі плакаў і ўсё дзякаваў літэрату...

— Вось прыяцель, вось прыяцель?... А заўтра ў цягнік і... гайда на службу... Сьмеху варта — я гарую, а ратунак, вось... вясіць сабе на сьценцы—апавядаў ён заплётваючым языком паненцы — а ўсё ён, мой дарагі, прыяцель!... А чаму—кажа — пальто не прадасі?!... Ідэя!... Гэніяльная ідэя!... А заўтра гайда... і няма ўжо безработнага Забубніцкага...

Літэрат, апёршыся на руку, пахрапваў за сталом...

Ужо надыйшоў вечар, калі быў пададзены рахунак... Ня спрэчаліся, ня шумелі...

А неяк, н'ат весяла махнуўшы рукой, Забубніцкі вылажыў усю „гатоўку", якую атрымаў за пальто, і калі не хапіла, дык толькі разьвёў рукамі... Але і тутака літэрат прыйшоў на ратунок—выскраб усё, што было ў кішэнях і пакінуў на'т яшчэ ў заклад гадзіньнік...

На дарогу выпілі яшчэ па чарцы... Шлі абняўшыся, заплёталіся нагамі і ледзь варушваючым языком нешта адзін аднаму ўсё тлумачылі...

На наступны дзень у тую самую пару ізноў заглянуў літэрат да вучыцеля...

Забубніцкі, як учора, сядзеў у той самай позе і ўбачыўшы літэрата неяк безнадзейна махнуў рукой і, ухапіўшыся за галаву, маўчаў...

І літэрат маўчком усеўся і вінаватымі вачыма паглядаў на яго...

— Ну апранайся, пойдзем!... Трэба-ж ратавацца... Вось і я сваю ідэю праводжу ў жыцьцё—ідзём фрак прадаваць...

Забубніцкі ізноў толькі адмахнуўся рукой...

— А галава трашчыць, трашчыць! — не адставаў літэрат — тфу! Як тыя малыя дзеці мы з табой учора!... І выдумаў-жа ты гэтыя піражкі?!...

— І ты пекны быў — нарэшце адазваўся Забубніцкі—навошта было дэлікатэсы цягаць з буфэта, дый „Патоцкага" яшчэ цэлы літр...

— Ну добра, добра... Зьняўшы галаву—па валасам ня плачуць... Кажу—ідзем ратавацца — прададзем фрак... Зойдзем выкупім гадзіньнік, а рэшту табе і выязджай з Богам, як найхутчэй...

Ужо калі выйшлі з хаты, дык сьціраваліся не да Іцкі, а проста да Абрашкінай...

Таргаваліся доўга... Кожную залатоўку выдзіралі як з горла і нарэшце... прадалі такі фрак...

— Ну я цяперака па гадзіньнік і дамоў...

— А я ўкладвацца і заўтра ў дарогу...

— На тваем бы мейцу, дык я нават і сёньня выехаў...

— Не, не пасьпею... і галава надта баліць...

— Ну глядзі — бо пасада добрая і шкода, калі ўпусьціш...

— Ня ўпусьцім —ня лыкам шытыя!...

Пад гэтую гурарку падыйшлі яны да „Мацея"... Гадзіньнік адразу выкупілі і ўжо было зьбіраліся выхадзіць, як паказаўся на салі знаёмы літэрат Альховіч... ён быў ўжо крыху выпіўшы...

— А! Каго я бачу?! Калегі мае дарагія! Дый куды-ж вы? — ускрыкнуў ён, калі яны прывітаўшыся сьціраваліся выходзіць — не, даражэнькія, ня пушчу!...




..у сталоўку для безработных.

— Колькі часу не спатыкаліся, а яны выходзяць!... Не!... Сядайце!... Сёньня я фундую... Я, браткі, напісаў такі фэльетон, што выдалі мне аж двайны ганарар...

— Не!... Браток, няма нам часу—пачаў Сянюк—мы і так ужо ўчора...

— За ідэю, браток, учора мы тутака пацярпелі—дадаў Забубніцкі...

— Ну як хочаце, але я вас ня пушчу — і амальшто ні сілком усадзіў іх Альховіч.—Сёньня мой дзень і сёньня я фундую...

Хоцькі ня хоцькі а прыйшлося застацца.

Пачалі са „службовых". Пасьля першай быццам паздаравелі — галава перастала трашчэць і іншым ўзрокам ўжо паглядалі на Альховіча, закускі... і гарэлку...

Пасьля другой — Сянюк толькі крыкнуў і зафыркаў... А Забубніцкі усё парываўся пачаць апавядаць пра ідэю і „як сьмеху варта—ён гараваў, а ратунак вісеў"...

Пасьля трэцяе перайшлі на звычайныя чаркі і ў далейшым ужо па ўчарашняй праграме, апрача толькі таго, што з буфэта ўжо абыдва літэраты цягалі дэлікатэсы і напіткі, і калі падалі рахунак дык літэрат Альховіч са сваім двайным ганарарам раптам зьнік і разам з учарашняй паненкай, якая ізноў тутака была апыніўшыся і ўсю аплату рахунку прыйшлося рабіць Сянюку... Але грошаў хапіла, і гадзіньнік застаўся пры ім...

Ізноў шлі да хаты і ўсё нешта адзін аднаму тлумачылі...

І да гэтае пары, калі яны спатыкаюцца, дык лаюць „гэніяльную ідэю", дзякуючы якой Сянюк застаўся без фрака, а Забубніцкі без пальта, без пасады, кожны тыдзень атрымлівае пісьмо, каб зьвярнуў грошы, высланыя яму на дарогу і лётае цяперака ў холад у нейкай накідцы ў сталоўку для безработных інтэлігэнтаў...

Г—ка.

# Твар сярод ночы.

*(З цыклю: „Падарожныя гісторыі").*



„Гэй! *taxi*, ці свабодны?!—спытаўся шофэра элэгантна апрануты мужчына, выйшаўшы борздым крокам з аднэй з парадных брамаў пры пляцы Напалеона.

Гэта быў стройны, высокага росту брунэт, гадоў 25, з правідлова абрысаваным тварам; з першага-ж погляду ўвагу глядзеньніка прыкоўвалі ягоныя вочы: вялікія і бязьмерна сумныя, заглядзеўшыяся глыбака ў свой, унутраны, патаёмны мір; у руках меў ён шыкарны чымаданчык і тростку.

„Але! паночку, свабодны! куды загадаеце ехаць? — адказаў тарапліва шофэр, здымаючы з пашанай шапку і ветліва ўсьміхаючыся пасажыру, ад якога спадзяваўся добрага заробку.

„Язджай хутчэй на вагзал", — загадаў брунэт, пасьпешна ўскочыўшы ў таксомэтр — „маем толькі 10 мінут часу, а мусім пасьпець абавязкава на цягнік"!

„Слухаю!" — адрапартаваў шофэр і маланкай кінуўся да ручкі сьпераду, каб завясьці матор.

Праз хвіліну пачулася характэрнае пырханьне і незабавам, наш таксомэтр, зьлягка хістаючыся з боку на бок і ўздрыгіваючы ад няроўнасьцяў бруку, хутка пакаціўся ўпярод сярод мітусьлівай клумнасьці старых, віленскіх вулак...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ужо некулькі месяцаў малады мастак Андрэй Нагорны (бо гэта быў ён), не знаходзіў сабе месца ад заядаўшае яго тугі...

А ні клюб, ні тэатр, ці кніжка, у якіх шукаў ён паратунку, не маглі ўжо разважыць і супакоіць яго, ды-й адцягнуць увагу ад аднае ўпартае думкі, аднаго жудаснага ўспаміну нядаўняе мінуўшчыны...

Справа ў тым, што некульку год назад памёрла ў Смаленску, ў разлуцы з ім, ягоная нявеста — Ганулэ Гневічанка і ён дасюль, адрэзаны кардонам, ня мог на'т наведацца на яе магілку.

Роспач якая ахапіла яго на вестку аб ейнай сьмерці ад сухотаў, далёка ад яго, — рабіўся асабліва дакучлівым пры думцы аб немагчымасьці хоцьбы толькі пабачаньня і ўпарадкаваньня яе могілкі: мо' ўжо размылі яе дажджы; мо' крыж згніў, ці пакрадзены на апал?!

Разстрой нэрваў Андрэя рабіўся што-раз мацнейшым.

Калі ён гасіў лямпу, начная паўцьма, панаваўшая ў кабінэце, згушчалася ў нейкіясь імглістыя сілуэты, якія, падчас, зусім выразна вызначаліся на фоне фіранак; нейкіясь далёкія галасы клікалі ледзь-чутно: „Ан-дрэй!... Ан-дрэй!..."; рабілася неяк жудасна і ўдушна і ён паліў ізноў лямпу, каб крыху супакоіцца...

Не раз, прачхнуўшыся ўначы, бачыў ён на сьцяне мілую сэрцу зьяву: твар Ганулькі адвёрнуты ў профіль, на фоне шэрага кружка з вагністай каймай; гэтая зьява трывала нікалькі сэкундаў, прычым была гэтак выразнай, што Андрэй мог бачыць кожную найдрабнейшую рыску Ганулькінага твару!...

Падчас станавілася яна — блакітна-белая — у дзьвярох, так, што Андрэй мог бачыць яе ўсеньку, але калі ён кідаўся да яе, усё зьнікала і ён натрапляў толькі на халодныя сьцены...

На'т і днём ня меў ён супакою!

Прыкмеціўшы падчас сярод вулічнага натоўпу жанчыну, падобную да Ганулькі і забыўшыся аб яе сьмерці, ён з балючым зашчамленьнем сэрца і перапыняючымся духам, гнаўся сцралою за ёй, таўхаючы праходзючых, наступаючы ім на ногі і не зьвяртаючы аніякае ўвагі на іхняе абурэньне, зьдзіўленьне, ці лаянкі, — пасьля-ж, пра-

канаўшыся незабавам, што гэта ня ёсьць Ганулька, — абязсілены і зьнямеўшы, вяртаў паволі, бы аўтамат, дамоў.

Ня могучы змагчы сваіх думак аб Ганульцы і ахвоты пабачаньня яе магілкі, Андрэй ўрэсьце пастанавіў ехаць у Расею, чым-бы гэта яму ні пагражала!

Спагадаючыя яму ў горы сваякі і сябры дасталі яму заграпічны пашпарт, здабылі савецкую візу і вось у пасьляпалудзенных гадзінах аднаго сонечнага восенскага дню, сабраўшы неабходныя рэчы, Андрэй кранууся ў дарогу...

У гэтым ласьне моманце засталі мы яго ў пачатку нашага апаведаньня...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Таксомэтр хутка мінуў Вострую Браму і пасьля пары паваротаў спыніўся прад галоўным пад'ездам вагзалу.

Цягніка яшчэ ня было і ўвесь станцыённы будынак быццам драмаў... Андрэй зьверыў свой гадзіньнік з чыгуначным і, праканаўшыся, што ягоны — сьпяшаецца ажно на поў-гадзіны без мала, злосны скіраваўся ў буфэт.

У прасторнай залі І-шае клясы было пуста і ціха; дзе-недзе толькі прымасьцілася па куточкам, — на лаўках, або пры сталох, — па аднэй, ці некульні асоб з падарожнымі клумкамі і сьціпна гутарылі паміж сабой.

Загадаўшы кэльнеру падаць бутэльку „чырвонага" і халоднае закускі, Андрэй аддаўся думкам...

Тымчасам на вагзалі пачыналася па крысе абычная мітусьня і ўзьнімаўся стугалосы гармідар і гоман... Да пад'езду набліжаліся што раз то новыя таксомэтры, звошчыкі і аўтабусы і выкідалі з сябе паасобных людзей, або цэлыя іх групы, якія ўраз гінулі дзесьці ў нутрах чыгунковага Молоха...

Андрэй купіў білет і выйшаў на пэрон. У паветры пахла вугальным дымам і ўсё яно здавалася быць прасышчаным нэрвовай атмосфэрай, адбываючыхся тутака бязупынна сустрэч і разьвітаў.

Ўрэсьце прагучэў сыгнальны звон і незабавам, узмогшаяся агульная мітусьня і крыкі, указалі на набліжаньне цягніку.

І сапраўды, зірнуўшы на права, Андрэй пабачыў набліжаўшыйся хутка і нячутна цягнік... З захопленьнем узіраўся ён на гэтую шэрую, вялізную, сталёвую вужаку, якая, хістаючыся зьлягка з боку на бок ад борздай хады, якой зьвянелі і дрыжэлі спуджаныя рэйкі, з нястрыманым размахам ляцела ўперад.

Вось ужо зусім блізка замаячыў прад Андрэем горды перад паравіка з нізкім, быццам зрэзаным, комінам і, начэпленай сьпераду яго вялізнай лямкай—ўшчэ момант—запахла шмарамі і вуглям і міма яго, прагрукацела, прамільгала разбэшчаная сямейка рычагоў паравіка, якія кідаліся, на першы пагляд, бяз ніякага складу ў ва ўсе бакі дый з гэткім імпэтам і грукатам, што здавалася, што яны — як-га! — вырвуцца з сваіх вязяў і разьлятуцца хто-куды, а яны тымчасам, у поўнай згодзе, спрытна і рухліва пaвяртaлі вялізныя колы, пяючы сваім стукацeньнем хвалебную сымфонію магутнасьці чалавецкага гэнія; пасьля замітусіліся прад вачыма зьлягка запыленыя вагоны... вокны... твары ў іх... цягнік няпрыкметна стануў і гурма людзёў паплыла з вагонаў...

Заняўшы асобнае купэ І-ай клясы Андрэй, не зважаючы на людзкі мурашнік, які капашыўся прад яго вачыма, спыніўся ізноў на зьявішчах свайго утранага міру, стараючыся прадусім дашукацца прычын таго дзіўнага непакою, які ахапіў яго пры ўваходзе ў вагон, аднак усе ягоныя высілкі засталіся бязплоднымі і прыкрае пачуцьцё дадзевала і далей з даўняй сілаю.

Ўрэшце пачуўся сьвісток, цягнік ціха крануўся і платформа, людзі, будыніны паплылі недзе ўзад, уцякаючы, што раз то хутчэй і хутчэй...

Андрэй адчыніў вакно і пачаў узірацца на ўцякаючы вагзал. Гурткі вагонаў пасажырскіх або цэлыя шнуры—таварных мільгалі прад яго вачыма; нязьлічаныя рэйкі то зьбягаліся з сабой, то йзноў разьбягаліся, або беглі побач, а на старожы ладу, быццам нейкія добрыя божствы, з камічнай павагай парасьселіся каля тору прыземістыя стрэлкі і пры помачы круглых гірак, начэпляных на іх зялезныя рукі рэгулявалі гэты сталёвы лябірынт...

Незабавам горад застаўся з заду, прад вачыма падарожнага беларуская прырода раскідала багацьці свайго пэйзажу, які выглядаў асабліва хараша ў прадвячорнай пазалоце раньняе восені.

Прад вачыма Андрэя мільгалі, бы ў калейдаскопе, лясістыя ўзгоркі, даліны, рэчкі, то йзноў прасторы далёкіх палёў, або лясныя прасекі.

Зжатае збожжа стаяла ў копках, выстраіўшыся радамі, быццам нейкае войска; мяйсцамі пасласе жывёла на спаленых сонцам, здратаваных капытамі выганах, а над усім сінела раскошнае, глыбокае неба...

Андрэй, вывіліўшыся колькі мага праз вакно, прыглядаўся з любасьцю да стройнае вужакі вагонаў, якую даволі добра было відаць, калі цягнік рабіў павароты, пахіляючыся ўвесь на адзін бок, каб не сарвацца з рэйкаў; з воддалі, ад пераду наплывалі да ягонага вакна круглыя дошкі сыгналаў і выдаючы дзіўны нейкісь гук пад уплывам удараючай у іх хвалі паветра, нiклі зараз-жа ззаду, усьмяхаючыся загадкова з воддалі сваім круглым тварам; іншыя сыгналы ў постаці непраўдловага крыжа, гэтак-жа выцягвалі да Андрэя свае сталёвыя рукі—дошчачкі, быццам намагаючыся нешта яму сказаць і, не пасьпеўшы, заставаліся ў воддалі, заламываючы з адчаю рукі...

Набліжаўся вечар .. Сонейка, усё зчырванеўшы, забаўна каціласе над самай зямлёй, падчас праблісківаючы крывава праз гушчары або хмызьняк.

Калі Андрэй вышаў у пэўным моманце на плятформу вагону і глянуўшы ўверх пабачыў на фоне вячэрняга неба маланкова зьнікаючую паміж дахаў пасму паравіковага дыму,—ён раптам увявіў сабе крыючуюся ў гэтай хуткасьці лёгкасьць сьмерці.

Пачуцьцё небясьпекі павялічыліся пры поглядзе на хутка ўцякаючае з пад ног палатно чыгункі, а шалёны грукат колаў яшчэ больш узмацовываў трывогу... Вывіліўшыся з плятформы Андрэй узіраўся ўперад і, пад уплывам нэрвовага разстрою, яму здавалася, што цягнік ужо выска-

чыў з рэяк і ўраз паляціць з высокага насыпу... Але пасьпешны цягнік імчаў спакойна далей; халодны веў, у якім пах дыму мяшаўся з арараматам палёў, халадзіў распалены мозг і нэрвы Андрэя памалу супакоіліся.

Вярнуўшыся да свайго адзінотнага купэ, Андрэй незабавам вычуў у ім зусім выразна прыгутнасьць нейкай другой яшчэ, блізкай яму асобы, ды хоць тысяча нявідочных ніцяў вязала ягонае сэрца і мозг з гэтай таямнічай істотай, ён, як ні сіліўся, ня мог а ніяк сьцяміць: хто гэта?..

Час ляцеў...

За вокнамі ўжо зусім сьцямнела...

Калёсы цягніку манатонна „такалі", наклікаючы драмату...

Раптам, зьнячэўку, штось застукацела і бліснула за вакном, заміргалі нейкія чароўныя касмачкі сьвета,—ш-ш-шах!—прагудзеў стрэчны цягнік, і ўсё зьнікла і толькі ізноў нудна і разьмерана вялі гутарку колы вагонаў:

„Так! так!—Ды ня так!.. Так!—Так"!..

Андрэй, які ў першую мінуту інстынктыўна адхінуўся ад вакна парывістым, нэрвовым рухам зараз-жа апанаваў свае нэрвы і вярнуўся да папярэдняе позы, а пад уплывам гэтага шалёнага імпэту разьмінаючыхся цягнікоў, ізноў аджылі ў яго галаве думкі аб лёгкасьці сьмерці, крыючайся ў дэмане руху...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

На адной з станцыяў Андрэй выйшаў на пэрон, каб разамнуць крыху ногі і зьесьці што кольвечы ў буфэце.

Была ўжо глыбокая ноч... Цемра пагражаюча абступала невялічкі, асьвечаны круг станцыённых будынін... Зараз-жа за апошняй ліхтарняй пачыналася неабмежаванае панаваньне ночы...

Калі Андрэй, манючыся ўвайсьці да цягніку, схапіўся за парэнчы вагону, — ён адчуў зусім новае, нязнанае дасюль і жудаснае ўражаньне быццам дзесяткі і сотні нявідачных рук, хапалі яго за вопратку, стараючыся спыніць і ня пусьціць да вагону, а нейкі ўнутраны голас казаў: „Ня йдзі! Ня йдзі"!..

Аднак Андрэй хутка перамог гэтыя нэрвы і ўвайшоў у вагон. У вагоне было даволі пуста, а і тыя што былі, — ужо спалі ў сваіх купэ. Па калідору прайшоў сонны кандуктар з памочнікам і йзноў чуваць было толькі плаўнае калыханьне вагону ад быстрага бегу і мернае таканьне калёсаў...

Андрэй, ня могучы неяк здрамнуць, пачаў ізноў углядацца ў вакно; хвойны лес, праз які ехаў ласне цягнік, то падступаў да самага палатна, то йзноў адыходзіў, або прарываўся, даючы шырэйшы кругагзор чалавечаму воку. Ад палёў і балоцістых ройстаў наплывала да вокнаў сьцюдзёная, начная імгла... Узіраючыся пільней ў гэтую імглу, Андрэй пачаў прыкмечаць у ёй нейкія адразу нявыразныя контуры, якія, спусьціўшыся па крысе, прынялі ўрэсьце воблік жанчыны: воблік гэты робячыся што раз больш выразным, набліжаўся да вакна, вось і гэтыя знаёмыя касмачкі ясных валос з бакоў галавы, і салодкія вусны, і глыбокія, задумлёныя вочы... так! Ня было сумліву, гэта быў воблік Ганкі!..

Андрэй доўга ня мог адарваць свайго погляду ад ейных вочаў, тым больш, што вочы гэтыя, поўныя каханьня, адначасна з мальбой і роспаччу глядзелі на яго, быццам яна хацела сказаць яму нешта, ды-й ня мела адвагі, ці магчымасьці...

Пачуваючы сябе, што раз то больш пад уладай нейкіхсь патаёмных сілаў і жадаючы вызваліцца ад іх, Андрэй хутка зацягнуў ролетай вакно і спрабаваў ня думаць аб нічым ды-й крыху заснуць. Ён ужо пачынаў драмаць, калі пачуў каля сябе прысутнасьць кагосьці і ўзьняўшы вочы пабачыў прад сабой... Ганку!...

Спруцянелы і зьнямеўшы ад зьдзіўленьня Андрэй толькі пасьля добрае мінуты адважыўся спытаць узварушаным і зрываючымся голасам: „Ганулька ці гэта ты? Дык ты ня ўмерла? Жывеш? Скуль? Якім чынам"?... Але Ганулька не адказала ні слова і толькі паказала на вусны, быццам хочучы сказаць, што ня можа гаварыць з ім, толькі вочы яе зрабіліся ў гэтую мінуту йшчэ больш умаляючымі і клікалі йсьці за ёй. Ня могучы аперціся гэтым просячым вочам, Андрэй падняўся з лаўкі і бы аўтамат пайшоў за ёй па калідору...

Незабавам Ганулька спынілася і падняўшы руку ўказывала яму на нейкую прыладу на сьцяне. Зірнуўшы ў паказаным кірунку Андрэй пабачыў якуюсь зялезную руку. Зьдзіўлены і не цямячы ў чым справа, ён зьбянтэжаны ўтаропіўся на Ганульку, як-бы пытаючы яе: „У чым справа"? Тады яна маўкліва працягнула руку і выканала рух, быццам хацела апусьціць гэту ручку ўніз. Цяпер толькі Андрэй прыкмеціў, што ейная рука, як і наагул уся яе асоба, была празрыстай і павейнай бы імгла...

„Хутчэй"!!—шапнуў Андрэю ўнутраны голас і ён, не цямлючы нат добра, што робіць, моцна дзерганў ручку!...

Нешта моцна рванула ўсім вагонам, заскрыгатала пад коламі і кінула Андрэя аб сьцену гэтак сільна, што ён асунуўся на зямлю і страціў прытомнасьць....

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі ён ацьверазеў, у вагоне было цёмна, здань зьнікла, а па твару сачылася штосьці цёплае і сплывала па шыі аж за каўнер...

Зірнуўшы ў цемень ночы ён прыкмеціў імглістыя сілуэты, снуючых каля вагонаў людзей і вялікшы іх згруд каля паравіка, цяжкае пыхценьне якога разьбівала начную цішу і далёка разыходзілася па ваколіцы, адбіваючыся гулкім рэхам у суседнім бары...

Ня доўга думаючы Андрэй пакіраваўся ўперад цягніку... У некаторых вокнах сьвяціліся лямпы, у іншых-жа была цёмна; над камінам паравіка ўзьнімаліся час ад часу снапы іскраў; міма борздым крокам прабяжалі кандуктары з зялёна-чырвонымі лямпкамі ў руцэ...

Праціснуўшыся праз натаўп, ажыўлена гамонючых пасажыраў, Андрэй пабачыў прад сабой астачу рухнуўшага мосту... Цягнік спыніўся над самым абрывам...

„Магла-б быць шыкарная катастрофа!" — сакатаў каля яго нейкі таўстапузы фрак з *Sleeping-car'у*...

Андрэй адвярнуўся ад яго і моўчкі глянуў пад адкос... Недзе, далёка ў нізу, шумела рака...

Канец.

Вільня. Сакавік 1927 г.

*Язэп Сьветазар.*

# Песьнярка каханьня.

*(Аб любоўным элемэнце ў творчасьці Канстанцыі Буйло).*

„Як я цябе люблю,—хай скажа гэта мора,
„Што у грудзях маіх бушуе,—хай гавора
„Аб гэтым сэрца, што пагляд тваіх вачэй
„Сон прабудзіў яго, аж дргнула сільней
„І так забілася, як птушачка у клетцы,
„Што вырвацца з грудзей хацела ўжэ здаецца“...

*К. Буйло.*

Канстанцыя Буйло?!

Аўтарка „Курганнай кветкі“?!

Не адзін мо' на'т ня чуў пра яе, а шмат хто пэўне ўжо й забыўся...

Ды-й ня дзіва! Бо ці-ж было якое новае выданьне ейных твораў? Якоесь сьвяткаваньне, прысьвячаннае ёй? Ці былі якіясь угодкі яе творчасьці?—Не, ня было! Ды і скуль ім бываць, калі ў адзінай, якую маем гісторы беларускай літэратуры М. Гарэцкага, німашака ня толькі даты выдрукаваньня яе першага вершу, але на'т году яе радзін!

Мы нават ня ведаем ці жыве яшчэ—недзесь ў Расеі—гэтая кволая дзяўчынка, што гэтак прыгожа лятуцела аб неспазнаным яшчэ тады, буйным, вагністым каханьні, бо ўжо некулькі год як яна ня піша і німа аб ёй ніякіх вестак!...

Гэтак „спыніла свой голас жалейка“ і — па крысе—забыліся ўсі аб заглохшай кветцы...

Вось-жа ў нашым артыкуле мы хацелі-б прыпомніць беларускаму грамадзянству гэту выдатную песьнярку, якая—духова—вельмі блізка зродзена характарам свайго таленту з вядомай, сучаснай беларускай поэткай Натальляй Арсэньевай.

Біографічныя данныя, якія знаходзім мы аб К. Буйло ў падручніку М. Гарэцкага, — ёсьць вельмі скупыя і невыстарчаючыя, але ня маючы іншых крыніцаў, мусім здаволіцца і гэтым малым, што там ёсьць.

А ёсьць там, больш-менш, наступнае:

Канстанцыя Буйло ўрадзілася ў самым канцы мінулага стагодзьдзя.

З паходжаньня дачка дворнага служачага з Вішнева, (Ашмянскага павету, Віленскага ваяводзтва), засталася Буйло з хатняй адукацыяй, але, маючы ўроджаны нахіл да літэратуры, шмат чытала, дапаўняючы гэткім чынам нестачы і хібы свайго ўзгадаваньня.

Пазнаёміўшыся з беларускім рухам, дзякуючы аднаму студэнту-адраджэнцу, маладая дзяўчына захапілася справай і незабавам зрабілася выдатнай супрацоўніцай „Нашае Нівы“.

Праз нейкі час працавала яна ў Вільні ў дзіцячым прытулку, пасьля-ж—ў пачаткавай школе ў в. Чаўшлі Мала-Салечніцкай парахвіі.

Крыху пазьней бачым мы К. Буйло, як загадчыцу беларускай кнігарні ў Полацку.

Падчас вайны наша песьнярка працуе ў „Земскім Саюзе“, дзе, пазнаёміўшыся з нейкімсь В. Калечыцам, выходзе за яго замуж.

Ад часу рэвалюцыі жыве яна ў Маскоўшчыне, на станцыі „Шахаўской“, Аляксандраўскай зялезнай дарогі.

Гэта вестка аб К. Буйло з прад некалькі год, нажаль, зьяўляецца апошняй!

Што з ёй зрабілася далей—німа ведама!...

Ў 1914 годзе зьяўляецца першы і адзіны дасюль зборнік яе вершаў п. н. „Курганная кветка“.

Зборнік гэты, старанліва выданы праз заслужаную для беларусаў друкарню Марціна Кухты ў Вільні, мае каля 100 старонак друку разьмеру васьмёркі і выяўляе першарадныя мастацкія вартасьці. Прыгожая віньета вокладкі, прадстаўляючая ні то — сярэднявечнага рыцара, ні то—эгзотычную нейкуюсь красуньку у казачнай вопратцы, як нельга лепш адказывае зьместу зборніка.

Львіная частка кніжкі, прысьвячана каханьню.

Характэрнымі ў ёй ёсьць выняткова моцныя эротычныя акцэнты, гэтак рэдкія наагул ў беларускай літэратуры.

Ўся істота К. Буйло імкнецца прост'такі стыхійна да каханьня! Аб ім яна лятуціць; па ім сумуе; яго жадае; яго чакае!...

І творах яе бачым мы цэльную чашу любоўных пачуцьцёў; бачым каханьне ува ўсіх яго праявах!

У некаторых вершах ідэалізацыя каханага мужчыны ў хваравітым сваім пафосе даходзе ажно да абагатварэньня, у іншых ізноў прыкмечаем гэтак характэрную для маладых дзяўчат, асабліва-ж для дзяўчат—фантазёрак, „восторжэнносьць“, эмфазу, — наагул аднак любоўныя вершы К. Буйло вызначны моцай пачуцьця і артызмам поэтыцкага яго выразу, ня кажучы ўжо аб багацьці і рожнароднасьці яе любоўных перажываньняў, як рэальных, гэтак-жа і высьненых толькі любоўнай інтуіцыяй песьняркі.

Сярод беларускіх імпрэсыоністаў, песьняроў Чыстае Красы як: М. Багдановіч, У. Жылка, Н. Арсэньева; — К. Буйло, займае пачэснае мейсца і належыць бязсумліўна да беларускага літэратурнага Олімпу.

У абгаварываным намі зборніку вершы ня ёсьць падзелены на нейкіясь асобныя групы, аднак у пачатку пераважаюць вершы патрыятычныя, далей йдуць — любоўныя, якіх ёсьць найбольш, а йшчэ далей зьмешчаны імпрэсыі; акрамя таго, ў перамешку з іншымі поэзыямі, знаходзім мы тут і пару вершаў фантастычных, прырода апісальных, або пісаных на матывы сялянскія.

У самым канцы кніжкі зьмешчаны дзьве п'ескі.

У гэтым нашым артыкуле мы абмяжуемся да агляду выключна толькі вершаў любоўных, якія зьяўлюцца найбольш характэрнымі для нашае песьняркі, а дзеля таго заслугоўвуюць на апрычоную увагу. Багацьце любоўных сюжэтаў тутака гэткае што можам з іх лёгка ўлажыць цэльную поэму каханьня!...

Вось для прыкладу верш „Ўкраіне мар“ (ст. 23), кажа нам аб каханьні пабратымчых душ яшчэ ў перыядзе бязцельным, у іх эфірных падарожах перад прыходам на сьвет:

Ў краіне мар, паднебнай далі,
„Гдзе зоры сьвет ракой лілі,
„У праменьнях сонца мы спаткаліс,
„Не знаючы яшчэ зямлі.

„Я помню гэтае спатканьне,
„Пагляд гарачы помню твой
„Ясьнейшы зоркі залатой,
„Што мне ў душу уліў каханьне"...

Ў іншым ізноў вершы п. н. „Памятны дзень" (ст. 33), мы бачым гэткі напрыклад абраз, як першае зямное спатканьне, ужо здаўна празначаных для сябе воляй лёсу мужчыны і жанчыны; спатканьне гэта выклікае магутны ўстрас ў душы пясьняркі, якая, пад уплывам яго, адразу перастае быць дзіцянём і зьмяняецца ў горача кахаючую кабету:

„З лет даўнейшых маіх помню дзень я адзін:
„Вясна была, скаўронaчак пеў;
„Каля ног серабрыстая рэчка плыла,
„А над ёй лазьняк ціха шумеў.
„Я—дзіцяцяй яшчэ—чуць падросткам была, —
„Шоў пятнацацаты год мне тады;
„У той дзень я над рэчкай вяночкі віла,
„Прыглядаючысь ў люстры вады.
„Поўна сетка мая ўжо была матылькоў,
„Вянкі пышнай ляжалі гурбой,
„Прымерала я іх, сьмяючысь як дзіцё...
„Ты зьявіўся тады прада мной.
„У той памятны, ясны і сонечны дзень,
„Як цябе толькі ўбачыла я, —
„Ўраз прапалі на век жывасьць гульняў маіх
„І дзяцінная ўцеха мая"...

Тутака песьнярка, ўпадае ў любоўны экстаз і гэтак пяе далей сваю „Песьню песьняў":

„Як-бы бог характва, ты стаяў прада мной
„З сьмелым поглядам дзіўных вачэй;
„Многа новых, нязнаных мне дум пабудзіў,
„Сэрца білась сільней і сільней"...

Не бракуе ў гэтым зборніку і першых, нясьмелых, ад сэрца йдучых прызнаньняў пясьняркі аб яе любоўнай тузе, пачуцьцях, лятуценьнях словам—аб усіх тых рэчах, якія дасюль былі саромліва хаваны ў глыбіні душы, будучы для іншых тайніцай; вось напрыклад у вершы „Я шукала"... (ст, 22) спатыкаем выяўленьне магутнай, спрадвечнай тугі жанчыны за мужчынай, якога аўтарка ўжо здаўна чакала і радасьць ад яго зьяўленьня:

„Я шукала цябе мілы мой ўжо даўно, —
„Я шукала цябе, выглядала,
„Вось, такога, як сьніўся ў дзявочых мне снах,
„Хоць тагды я цябе йшчэ ня знала!"...

— начынае свае вызнаньні поэтка, але саромлівасьць, навык да скрытасьці, а яшчэ больш жаноцкая амбіцыя, не дазваляюць ёй рабіць гэткіх шчырых рэвэляцыяў аб яе ўнутраным міру і яна, спыняючы сябе, кажа ў адным з безназоўных вершаў: (ст. 32).

„Не хачу я нічога казаці табе,
„Бо баюся што ў словах маіх
„Выліецца каханьне маё да цябе,
„Што ўсё зразумееш ты з іх".

— Дый ня толькі казаць яму штось баіцца яна, але нат узірацца на яго:

„Не хачу я глядзець, каб з маіх ты вачэй
„Тайны сэрца майго не згадаў,
„Каб паблеск іх таёмных, гарачых лучэй
„Як цябе я люблю не сказаў"...

А вычытаць гэтую тайну з яе вачэй мілому будзе тым лягчэй, што ягоныя вочы маюць на яе нейкісь асаблівы ўплыў, гэтак ўладарна магнэтызуючы яе, крыючайся ў іх чорных бяздоньнях, палкасьцяй, ажно яна спуджана пытаецца:

„Скажы, мілы, чаму —
толькі гляну я ў вочы твае —
„Мне здаецца, што ноч прад сабою я маю?
„Так глыбокі яны, як яна,
і так ясны, як зоркі яе.
„Ажно часам я вочы свае прыжмураю...
„Скажы, мілы, чаму
у глыбокае іх тлыбіне,
„Як на кніжцы падчас—так чытаць я гатова?
„Уся глыбь твайго сэрца у іх
чорна-ясным атсьвецціцца дне,
„Адаб'ецца ляпей і ясьней, як у словах...
„Чаму з сілы усей часам хочацца мне закрычаць:
„Не глядзі—адвядзі ад мянс свае вочы!
„Бо ўсё тое, што часам у іх мне удасца ўглядзець, прачытаць,
„То мне розум душу і ўвесь сьвет замарочэ?"...

„Чаму?"... (ст. 26).

Але раз пачатыя прызнаньні перапыніць трудна і пясьнярка, крыху далей, ўжо зусім адкрыта прызнаецца мілому ў сваім палкім каханьні:

„Як я цябе люблю,—хай скажа гэта мора,
„Што у грудзях маіх бушуе,—хай гавора
„Аб гэтым сэрца, што пагляд тваіх вачэй
„Сон прабудзіў яго аж дрогнула сільней
„І так забілася, як птушачка у клетцы,
„Што вырвацца з грудзей хацела ўжо здаецца...
„Як я цябе люблю,—хай скажа салавей,
„Што ночкамі пяяў над галавой маей;
„І ночкі гэтыя—бязсонныя ўсе ночы, —
„Што да цябе нясьлі рой дум маіх дзявочых,
„Як ты далёка быў—далёка ад мяне"...

„Як я цябе люблю"... (ст. 29).

Чым далей, тым прызнаньня ахопленай полымям каханьня маладое дзяўчыны, робяцца што раз то больш палкімі і неакелзанымі:

„Не глядзі на мяне... Маё сэрца так б'ецца,
дрыжыць;
„Твае вочы ў крыві у маей запаляюць агонь"...
кажа яна, а крыху далей дабаўляе:
„Не глядзі! Ты глядзіш, а тады так хацелася-б мне
„Мой распалены твар да грудзей, да тваіх прытуліць
„І глядзець ў твае вочы ўвесь век і на яве, і ў сьне...
„Не хачу... А цябе не магу, не магу ня любіць!"

„Не глядзі" (ст. 31).

Ўрэсьце, просячы яго, каб дазволіў пацалаваць сябе пры разьвітаньні, кажа:

„За твой пагляд усё аддала-б на сьвеце —
„І славу, і пачот, і шчасьце у жыцьці
„Пазволь апошні раз на цябе паглядзеці,
„Пацалаваць цябе, а потым памярці!...

„Не магу" (ст. 28).

Бурлівы эротызм гэтак пранікае ўсю істнасьць К. Буйло, што н'ат гэткія адарваныя паняцьці як „туга", прыймаюць у ейных поэзыях яскрава—эротычную форму любоўнага адданьня:

„Прысела ты да мяне ў паўночны ціхі час,
„Прышла на маей раскіданай пасьцелі,
„І сон мой адляцеў кудысь далёка—ўраз,
„І мары сьветлыя кудысьці адляцелі,
„І былі мы з табой ў паўночны ціхі час...

„І ўраз знайшлася я ў галубленьнях тваіх:
„Ты абвіла мяне гарачымі рукамі,
„Палючых вусн агонь лёг на грудзях маіх,
„А ў вочы мне сваймі панурымі вачамі
„Упілась ты, й мёрла з мук ў ваб'яцьцях я тваіх"...

„Туга" (ст. 41).

У гэтай сапраўднай сымфоніі каханьня, якой ёсьць любоўныя вершы К. Буйло, не бракуе і сумных тонаў скаргі, адчаю, сьмяротнае тугі...

Адным з лепшых вершаў ў гэтым родзе ёсьць імпрэсыя п. н. „Адна" (ст. 34) — скарга кабеты, згубіўшай свайго мілога, ці—мо'—пакіненай ім... Пачынаецца ён гэтак:

„Адна, ізноў адна, як колас той у полі
„Не сьцяты ў час жніва нагострэным сярпом,
„Зламаны ветрамі гулячымі на волі
„Між апусьцелых ніў, спалосканых дажджом.
„Адна, ізноў адна... Тужліва сэрца ные.
„Наўкола пуста, глуш... Ноч цёмная стаіць.
„А за вакном віхор так жаласьліва вые,
„Якбы сканаць ня мог, ня хочучы больш жыць"...

На пасьледак зьвернем тут яшчэ ўвагу на адзін абразок, найбольш можа стыльны і суцэльны з усіх любоўных вершаў К. Буйло; носіць ён назоў: „Дзяўчына" (ст. 27).

Ад ўсяга гэтага вершу, утрыманага ў цёплых, пульсуючых гарачай крывёй, тонах вее нявыказаным чарам дзявоцкае сыпальні і бурлівае моладасьці; вось яго зьмест:

„Ўжо сьвечка пагасла, ўжо ноч за вакном...
„У пасьцелі мне душна, ня сьпіцца...
„О сон! Ты самкні мае вочы скарэй,
„Мо' мілы сягоньня прысьніцца!

„Гадзіны ідуць, я ў пасьцелі ляжу,
„І сон не змыкае мне вочы,
„А месяц праз вокны лье сьвет залаты,
„Малюнкамі сьцены залоча...

„Устану з пасьцелі, вакно адчыню, —
„Мо' вецер, што ў полі гуляе,
„Мне скажа, што робіць мой мілы цяпер, —
„Мяне як даўней ці кахае?...

І вось наша дзеўчынка ўстае, адчыняе вакно і глядзіць, на чароўны малюнак летняе, месячнае ночкі і здаецца ёй што ня толькі ветрык, але ўся агулам прырода кажа ей аб сталасьці каханьня мілога, ды — на жаль — начны халадок хутка перапыняе гэтыя лятуценьні:

„А ночка халодна: ўжо чую як мне
„Дрыжаньне пабегла па целі;
„Іду ўжо, лажуся у цёплай маей
„І мягкай і белай пасьцелі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

„Заснула дзяўчына, а месяца сьвет
„На вочы і вусны лажыцца.
„Праз сон штось сьмяецца дзяўчынка мая:
„Відаць, што ўжо мілы ей сьніцца".

Канчаючы гэтым агляд любоўнай творчасьці К. Буйло, спынімся тут толькі праз момант над роляй, якую яна грае ў беларускай адраджонай літэратуры.

Вось-жа галоўнай заслугай К. Буйло зьяўляецца ўвядзеньне моманту выразна—эротычнага ў беларускую літэратураў.

Ні адзін спаміж беларускіх пісьменнікаў перад ёй, а н'ат і па сяньняшні дзень, ня пісаў гэтак шчыра, палка і адвазжна аб сваіх любоўных пачуцьцёх, дык прадусім К. Буйло пройдзе ў гісторыю беларускай літэратуры як пясьнярка каханьня. Але на гэтым не канчаецца яе роля ў беларускай літэратуры, бо К. Буйло будучы прадусім пясьняркай каханьня адначасна з гэтым зьяўляецца і дасканальнай і тонкай імпрэсыяністкай, у характве сваіх настрояў не ўступаючай паэзыям вядомай пясьняркі беларускай — Натальлі Арсэньевай, але гэта — асобная тэма аб якой пагаварым іншым разам.

**Язэп Сьветазар.**

КАНЕЦ.

# СКАРБ.

Неяк ў ноч сьвятога Яна,
Замест ісьці вянкі пушчаць,
Сабраліся мы ў Дзям'яна,
Дый нут-ка аб грашох гукаць.
Было нас трох: Дзям'ян Ліпоўка,
Другім-жа быў Пракоп Пазьняк,
Што вунь жыве ля Ляснічоўкі
Ну й я, так сама-ж ня хухрак.
Дзям'ян даўно шукаў дарогі
Каб неяк ды разбагацець,
Каб бяз ніякага нічога
Вялікае багацьце мець.
„Ня раз я (кажа) чуў—гукалі„
„Што ў лесе дзесь ля Індуноў
„Французы скарб калісь схавалі
„У пяць тысяч залатых рублёў,

„Дый дзед Сьцяпан апавядае,
„Што бачыў ён як у лясу
„Часамі вогнішча пылае
„У начы ў дванаццатым часу,
„А каля вогнішча прaнцузы
„У трох, ці ў чатырох сядзяць,
„Павыварачываўчы пузы,
„Ды грошы лічаць, аж бражджаць!
„Пасьля-жа, кажа, спрэчку ўзьнімуць
„Пяць тысяч тутка! закрычаць,
„Аб землю бразнуць і пагінуць,
„Нідзе нікога ня відаць.
„Дык чуеце! там скарб схаваны,
„Я-ж — знаю як яго дастаць,
„Якраз і ноч Сьвятога Яна,
„Пайдзём у трох яго шукаць!"

Пракоп так сама—як Ліпоўка.
На грошы надта-ж ласы быў,
І я-ж ня Божая кароўка,
Ды-й хто-ж-бы грошаў ня любіў?..
Вось мы-й пачалі рыхтавацца
Пасвойму кожны мяркаваць,
Кажу: „Каб надта не баяцца —
Гарэлкі-б можа варта ўзяць?“
„Ды ўсё ўжо ёсьць—гукнуў Ліпоўка,
„Я ўсё даўно нарыхтаваў,
„За вамі толькі астаноўка!“
І пляшку з кішані дастаў.
Ўзьняліся мы тады паволі
Гарэлку чаркаю дзяліць,



Пры гетым-жа, што раз то болей,
Пачалі грошы нас маніць.
„Вось каб пашчасьціла нам братцы,
„Ды гэты скарб у рукі ўзяць, —
„Ня трэба лепшага багацьця!
„Так Пракоп пачаў гукаць.
— „А як-жа! гэта-ж братка грошы!“
Дзям'ян гарача стаў казаць,
„Во! пажылі-б і мы ў раскошы,
„На што было-б і працаваць?!
„А там праз год, другі-б дасталі
„Знайшоўшы дзе схаваны йзноў...
„Тады-б і мы панакуплялі:
„Зямлі, скаціны, ды дамоў!“
— „Ды што там! толькі каб дасталі,
„Пасьля ўжо будзем мяркаваць
„Дзе, як і што, ляпей купляці“ —
Я гэтак тут пачаў гукаць.
— „Дастаць яго?! ды хоць цяперка!“
„Паслухай!“ кажа тут Дзям'ян,
„Вось гэтая браток паперка —
„Дык гэта-ж скарбу таго плян!!
„Вось бачыш — гэта лес пры вёсцы,
„А тут вось — пень таўсты стаіць
„Ад пня, па гэтай вось дарожцы,
„Сто крокаў трэба адлічыць.
„Там будзе роў, багністы братка,
„А каб яго нам перайсьці,
„Трэ' у бок зьвярнуць крыху на кладку,]
„Ад сьцежкі крокаў сто прайсьці.
„За ровам-жа, праз крокаў трыста,
„Вялізны камень мусіць быць,
„Круглавы, абтачоны чыста,
„Пад камнем гэтым скарб ляжыць!“.
— „Ага!“—Пракоп тут адазваўся,
„Ну, а скажы ты мне Дзям'ян,
„Якім-жа спосабам папаўся
„Табе у рукі гэты план?“
— „Аб гэтым братка не пытайся,
„Хутчэй гарэлку дапівай,
„Ды, калі пойдзеш, дык зьбірайся,
„А як ня пойдзеш, — то прашчай!“
— „Чаго табе так гарачыцца?!“
Пракоп з абідай загукаў,
„Зусім няма чаму дзівіцца,
„Што я аб пляне запытаў“...
— „Ды не! але к чаму пытацца,
„Што? скуль? ды як?—гукнуў Дзям'ян,
„Зусім няма чаго баяцца...
„Што-ж тут табе? якісь абман?!“
Яшчэ з гадзіну пагукалі
Аб тым, аб сім,—як скарб дзяліць,
Ды-й з хаты выхадзіць пачалі,
Гадзіньнік дзевяць стаў званіць.
Ідзём сьцяжынкаю праз поле.
Дзям'ян Пракопу штось шаптаў,
Мяне-ж, што раз то болей й болей
Страх нейкі забіраць пачаў.
І чую, бытцам хтось гукае:
„Вярніся Янка, пакуль час,
„Вярніся! хай яны шукаюць,
„Бо пажалееш ты не раз“...
Ды сорамна было прызнацца,
Сваім прыяцелям сказаць,
Што дальш не йду, бо стаў баяцца...
Ды йшчэ Дзям'ян пачаў шаптаць:
„Вы-ж помніце, Пракоп і Янка,
„Што як пачнём мы там капаць,
„Калі давацца будуць зданкі,
„Дык не пужацца, не ўцякаць!
„На'т—азірнуцца ўзад ня можна,
„Бо ўсё прапасьці можа ўраз.
„Глядзіце-ж, будзьце асьцярожны,
„Не зробце так—як той Аўлас,
„Што скарбу там шукаў ля дому,
„Аж бачыць—да яго пятух
„Вязе агромны воз саломы,
„Дык пёр-што ледзь ня вылез дух!
„Ды-й мы-ж у трох, чаго баяцца?!
„Што можа стацца злога нам?!
„Дык помніце-ж, каб не пужацца,
„Ды і гукаць ня можна там!
„Капаць моўчкі трэ' так як можна,
„Аж пакуль не зазьвіняць,
„Тады рукамі асьцярожна
„Іх з ямы трэба вынімаць“...
— „Ды ведаем мы й што як трэба“,
— Пракоп яго тут перабіў.
„Лепш паглядзі—як хмарна неба,
Каб дождж часамі не паліў“...
— „Ціха! здаецца хтось гамоне“,
— Дзям'ян тут прыслухацца стаў,
„Хавайся! хтось ляціць на конях,
„За куст! каб тут нас не застаў!“

Яшчэ схавацца мы ня ўсьпелі,
Як два мужчыны на канёх
Ля нас трох хутка праляцелі
І пазьнікалі у кустох.
Здалёку толькі данасіўся
Йшчэ стукат конскіх капытоў.
Ды незабавам аддаліўся
І хутка ўсё заціхла йзноў.



. . . Аж бачыць да яго пятух
Вязе агромны воз саломы.

Я тройчы тут паражагнаўся,
Дый іх пачаў страх забіраць.
Але т'кі крышку пачакаўшы,
Пайшлі мы далей: што-ж стаяць?!
Праз паўгадзіны прахадзілі
Мы блізка вёскі Індуноў;
Ня спалі ў вёсцы, бо сьвяцілі
Агні у вокнах ўсіх дамоў.
Чуваць было як там пяялі,
Хто варажыў, а хто скакаў.
На скрыпках і цымбалах йгралі
І бас ім гулка пасабляў.
Паволі й лес ўжо набліжаўся,
Нас ў сваю цёмру захапляў,
Дзям'ян кругом тут прыглядаўся,
Відаць таго ён пня шукаў!
Хадзілі доўга па амацку,
Аж спрыкрыла ўжо шукаць;
Аж тут:—„Сюды! тут пень!"—зьнянацку
Дзям'ян стаў радасна шаптаць.
Ад пня ішлі мы хутка далей,
(Дзям'ян наперадў ішоў).
Не мала мы папрацавалі,
Пакуль пералязалі роў.
За ровам, бытцам у гарачцы,
Шукалі камень мы у трох;
Хадзілі доўга аж прызнацца;
Засталісь чыста мы бяз ног!
А каменя знайсьці ня можна, —
Хоць мацалі усё кругом,
Ходзючы ракам, асьцярожна, —
Спаліўся бытцам ён агнём.
Ці скрось зямлю мо' праваліўся,
Скуль ўжо яго нам ня выняць,
А мо' Дзям'ян тут памыліўся,
Ды ня ў той бок пашлі шукаць?!
Ракоп ня вытрымаў, ды-й кажа:
— „Не, брат, няма тут камянёў!
„Я з першага ня веры́ў разу,
„Што скарб тут ёсьць; ідзём дамоў
„Дзям'ян няхай тут астаецца,
„Шукаць не скарбаў, а дурных,
„А-й то ня знойдзе, мне здаецца,
„У гэтым лесе ён і іх,
„Трэба-ж было вось"...
— „Ша! Ціха!"
— Дзям'ян трывожна перабіў,
„Ці бачылі—што там за ліха.
„Сярнічку бытцам хто паліў,
„Вунь гляньце, ўзноў штось засьвяціла,
„Ідзём туды—мо' камень там!"
Кажу:—„Мо' не ўражая то сіла
Сьмяецца з нас?—схадзі ты сам!..."
— „Ды што там сам! ўсе йдзём, [глянем
„Што там такое можа быць,
„А можа там якраз той камень
„Над скарбам тым агнём гарыць?"
Пашлі мы ўтрох, амацкам, ціха
На гэны аганёк якраз.
Падходзім бліжэй; што за ліха?!
Агонь раптоўна зьнік, пагас!
— „Хутчэй за мною братцы, далей!
„Пакуль шчэ певень не пяяў.
„Бо прападзе! Ну, што-ж вы сталі?
„Шукаць!"—Дзям'ян закіраваў.
Прайшоўшы крокаў больш як дваццаць
Ён раптам зашаптаў нам:—„Стой!
„Дальбог, не памыліўся братцы,
„Я камень маю пад нагой!"
Падбеглі, сталі яго мерыць
У шырыню і ў даўжыню,
Ну, можа з вас хто не паверыць,
Былі пры тым мы камяню,
Што ў пляні быў абазначоны,
Той самы! што тут і казаць!
Круглявы, з боку абтачоны
І з дзіркай; як-жа-ж не спазнаць?!
Нарыхтаваўшы ўтрох рыдлёўкі,
Пачалі камень мы вярнуць.
Раптам: бац! нехта з вінтоўкі,
Зьвяры ў лясу як заравуць!...
Як зарагоча хтосьці з боку,
Калі застогне увесь лес...
А Божачка Ты мой высокі,
Што-ж гэта ёсьць, куды я ўлез?!
З усіх бакоў тут чутны гукі:
— „Лавіць! жывых іх ня пушчаць!
„Пазьвязываць ім ногі, рукі,
„Ды скуру з іх хутчэй зьдзіраць!"
Аж панямелі мае ногі,
Рыдлёўка выпала мне з рук,
Ў вачох то ямы, то дарогі,
У галаве і шум і стук!...
Мурашкі сыпнулі за скуру,
Зьляцела шапка з валасоў,

Хоць маю сьмелую натуру,
Ды ўжо самлець я быў гатоў!
Чуць на зямлю не паваліўся
Аж застагнаў я:—„Ай! Պракоп!"
Дый крыху ўзад я пахіліўся,
Ды за плячо Пракопа—хоп!

Яго бы варам абварыла, —
Відаць мяне ён не пазнаў!
Ўсяго тут нек закалаціла,
Ды ў лес ён ходу як ні даў!...

Тут і ў мяне знайшліся ногі;
Я пёр за ім,—што сілы меў.
Не разьбіраў ужо і дарогі,
Ад страху—ледзь не ашалеў!



За намі-ж на канях ляцелі
Французы—крычучы: „Лаві!"
„Вяжы іх, каб яны хварэлі,
„Сячы іх, рэж, калі, даві!!"
А шум, а піск які, ды топат,
А шаблі страшна як зьвіняць;
Здаецца—ўраз за карак схопіць,
Ды скуру ўсю пачне зьдзіраць!
Што раз, то бліжэй, наганяюць,
Вось чую ўжо, як конь сапіць,
Француз-жа шаблю вынімаець
І проста на мяне ляціць!
Вось ужо-нагнаў—і замахнуўся
Ён з крыкам шабляй надамной,
Я ў бок, ды калі разануўся
Аб пень з разгону галавой!
Французы страшна закрычэлі...
Але ніяк не уцямлю,
Што й як рабілася там далей,
Самлеўшы бразнуў на зямлю...

. . . . . . . . . . . . . .

Каля паўдня я прабудзіўся
І вочы сілаю адкрыў,
Рукой за галаву схапіўся,
Ды ледзь ад болі не завыў!
Скура кавалкамі вісела,
Зьляпіла кроўю валасы,
Крый Божа крануць! Во балела!
На лбу балючы гуз бальшы...
Вочы ўшчэнт пазапухалі,
На сілу бачыў імі сьвет
І ўсё кругі мне ў іх стаялі...
Аж, раптам, чую, нейкі дзед
Загаманіў:—„Ну вось, прачхнўся,
„Але чаго ты тут ляжыш?
„Як гэта тут ты апынуўся,
„Адкулічка ты сам? кажы-ж!"
Успомніў я тады паволі,
Дзе я і што было са мной,
Ды аж затросься мімаволі
І твар сваю закрыў рукой.
—„Ну што маўчыш? дзед зазлаваўся,
„Мо' розум табе адняло,
„Адразу лепей прызнавайся —
„Вас колькі ноччу тут было?
— „Было нас трох..." — кажу я ціха:
„Пракоп, Дзям'ян, ды... трэцьці — я..."
— Яшчэ ня скончыў, што за ліха?!
Як зараве дзед, ай-я-я!
— „Ах вы зладзеі, канакрады,
„Бачыш, утрох яны былі...
„Пазабіваць вас трэба, гады,
„Каб ані хвілі ня жылі!
„Не працай зарабляці хлеба,
„Чужым дабром хацелі жыць,
„Людзкіх вам коні красьці трэба, —
„Не, не! засеч яго, забіць!
„Хай злодзей, ходзючы па сьвеце,
„Дабра людзкога не крадзець
„На полі, або дзе у клеці,
„Сабацы і сьмерць сабаччу меці!"—
Дый-за сякеру ён схапіўся,
І замахнуўся нада мной...
Ад страху я рукой закрыўся
І застагнаў, аж чую — „Стой!".
„Каго засеч ты там сабраўся?
„Яшчэ й лежачага напаў!"
— „Зладзея!"—дзед тут адазваўся,
„Ён з тымі ноччу коні краў!"
— „Што кажаш ты?!—тож коні дома,
„Ці-ж ты Андрэй, сягоньня п'ян?!
— „Няўжо-ж знайшліся?" — „А вядома!
„Прывёў іх солтыс з Азяран!"
— „Дык гэта не яны пакралі?" —
Пачаў дзед ціха гаманіць,
— „Ну, але ледзь жывуць, во далі!
„Ня будуць па начах хадзіць!
„У поўнач, коні як шукалі,
„Ля рову, бач, злавілі іх,
„Ну-й адмясілі-ж, во ўжо далі,
„Зьвязаўшы разам абаіх!
„Дык не кажы браток нікому,
„Што я хацеў яго забіць;
„Як коні ёсьць — ідзем да дому,
„Але, з тым хлопцам што зрабіць?"

— „А возьмем і яго з сабою!
„Што-ж, кінеш тут яго лажаць
„З так разьбітай галавою?..“
Другі так голас стаў казаць
Ня помню, як мяне забралі,
Бо раптам я самлеў ізноў.
Суседзі-жа апавядалі,
Што нас траіх вязьлі дамоў.



І што ляжаў я на калёсах,
І што Пракопка, ды Дзям'ян,
Былі так чорны — як саган.
Дык вось-як тром нам давялося!
Мы доўга хворыя ляжалі.
Добра што я, дык жыў адзін,
А іх яшчэ й бацькі ругалі
Што дзень па некалькі гадзін!

З тых пор, мы скарбаў не шукаем,
Той хціваасьці ужо німа;
Хоць цяжка грош свой зарабляем —
Ня хочам скарбаў і дарма!...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Чытач, што страхаў тых ня бачыў,
Ды скарбаў ня шукаў хоць раз,
Чытаючы мой гэты сказ —
Ты пасьмяешся з нас, ня йначай!
Або якім нягодным словам
Захочаш нас яшчэ й ругнуць,
Што мы ня ўсьпеўшы адвярнуць
Над скарбам камень, там, за ровам,
Спалохаліся страхаў тых.
Ды скажаш — каб адзін! — утрох!!
Не дасягнуўшы сваёй мэты.
Беглі ад скарбу, хто як мог!
Але каб быў на нашым мейсцы,
Ды каб ўбачыў па кустах
Жывых, прaнцузаў на канях,
Што з крыкамі: — „Лавіце, рэжце,
„Зьдзірайце скуры з іх жывых“.
Ды проста на цябе-б ляцелі,
Стралялі, шаблямі зьвінелі,
Дык ня стрымаўшы сваіх ног
І ты-б ляцеў, казеля вочы,
Як найхутчэй як толькі-б мог!
Па бездарожжу, па кустох,
Ня гледзючы на цемру ночы
Ды-й не зманіў-бы больш рагаты
Ісьці шчэ скарбаў тых шукаць,
А пільнаваўся-б сваей хаты,
Бо скарбаў — лепш іх і ня знаць!!

# З поэзіяў Вэрлена.*)

* * *

Раяль цалуе тонкая рука
У час вячэрні, шэра-ражаваты;
І на крылах, цішэй ад вецярка,
Ў паветры мяккім, пекным паплыла ты,
Тужліва песьня, і срэдзь комнат хаты
Шчэ доўга веяў пах, як ад цьвятка.
Што за калыска ціха так гайдае
Стамлёнага, бяздольнага мяне?
Чаго, як жэўжык, песьня вымагае?
І што ў канцы яе прыпеў жадае,
Каторы гэтак хутка у вакне,
Адчыненым на садзік, замірае?

## ЗІЯНЬНЕ МЕСЯЦА.

Душа твоя — малюнак артыстычны.
Пад лютняў звон прыгожы масак рой
Танцуе там, адзеўшыся нязвычна'
Ў надзеі скрыць праз гэта смутак свой.

На ціхі лад усе яны сьпяваюць
Пра мір жыцьця і сьветлую любоў,
Ды веры ў шчасьце сьпевы іх ня маюць,
І з ясным сьветлам зьліты зыкі слоў,

Са сьветлам месяца прыгожа - смутным,
Ад чар чыіх на дрэвах птушкі сьняць,
І лёгкія струі у плачы ледзьве чутным
Між мармураў натхнёна зігацяць.

## IL FAUT, VOYEZ VOUS, NOUS PARDONNER LES CHOSES.

Трэ' нам, бачыш, усё між сабой дараваць, —
Так хоць шчасьце нарэшце спаткае абох,
А і прыдзецце гора ў жыцьці нам зазнаць,
Дык прынамсі... ці-ж не?... будзем плакаць удвох.

Мы—дзьве родны душы; о, калі-б мы маглі
Сны бажаньняў з дзіцячаю радасьцю зьліць,
Што йдземо ад мужчын і кабет удалі,
Аб выгнаньні патрапіўшы ў шчасьці забыць!

Зьвернемся-ж у дзяцей, у дзяўчатак малых,—
Ні любві, ні зьдзіўленьня ня маюць яны,
Ў лес, збляднеўшы, ідуць ад паглядаў людзкіх
І ня ведаюць нават, што ўжо прашчаны.

Пераклаў *М. Богдановіч.*

*) Гэтыя пераклады з Вэрлена былі знойдзены ўжо пасьля сьмерці М. Богдановіча, дзеля чаго не ўвайшлі у зьмест „Вянка“, а толькі друкаваліся ў аднэй з газэт.

# З паэтыцкай творчасьці Ст. Станкевіча.

## НЕ ПАКІНЕМ...

Не пакінем зямелькі і Краю
Гдзе калісь нашы продкі жылі,
Тых палёў сенажацьцяў і гаю,
Гдзе яны пот крывавы лілі...

Ўсе да працы мы выйдземо з плугам,
Пачнём родную ніву гараць,
І шырокі прастор, саматугам,
Буйным зернем вакол засяваць.

Каб хутчэй наша ніва шумела
І ў гару падрастала ўвесь час,
Каласамі буйнымі шумела
І збор добры давала для нас.

Каб забыці пра гора й нядолю,
На апеку не станем чакаць!
Будзем самі каваць сабе долю
Й культуру сваю пашыраць!

Каб загінуў змрок цемры пануры,
Ўжо па ўсей Беларусі у нас;
Сьветач роднае нашай культуры
Каб нам вечна сьвяціў і не гас!

## ЎЮЦЦА ДУМКІ...

Ўюцца думкі! іх складаю
Вершам на паперы,
І канца у іх ня знаю —
Ўсьцяж плывуць бяз меры.

Гэтак з горам і з нудою
Увесь час снуюцца,
І паволі, чарадою
На свабоду рвуцца.

Так ад раньня да зьмярканьня,
Тонам тым маркотным,
Ўсё снуецца сумаваньне
Аб жыцьці гаротным.

І нельга яго стрымаці,
Сэрца ные з болю, —
Толькі й мусіш наракаці
На горкую долю.

На'т ня раз ужо я браўся
Іншы тон заводзіць —
Але колькі ні стараўся,
Ўсё нядоля шкодзіць!

## КАЛІ...

Калі пройдзе зіма —
Ўсё чакае наш брат,
Бо ў нас хлеба няма
Ўжо ад самых каляд.

Нё аднэй пыліны!
Сталі пусткі кругом,
І Бог знае як мы
Ўжо зіму пражывём?!..

Бо дастаць німа дзе!
Не вядома як жыць?!
Бо, глянь! кожны ў бядзе
Чуць жывенькі сядзіць!

Ды шчэ хаткі няма,
Трэ ў зямлянцы сядзець,
Увакруг ўсюды цьма,
Дзе ні станеш глядзець.

Нашы хаткі і ўсё
Змарнавалі вайной,
А цяпер трэ' жыцьцё
Каратаці з бядой.

І вось дзеці ў куце
Чуць жывыя сядзяць
У бядзе, у нудзе,
Толькі вочы блішчаць!

Бо — вядома — ў зямлі,
Як-бы тыя краты,
Эх! гаруем-жа мы
Беларусы — браты!

Эх! вясна! ты скарэй
Ужо к нам прыбывай,
Нас бяздомных сагрэй
І пацеху нам дай!

## СОНЦА.

*(З М. Канапніцкай).*

Эй! ты сонца прамень мілы,
Скольні маеш дзіўнай сілы, —
Зраньня сьвеціш, не марудзіш,
Жыцьцё новае ўсьцяж будзіш.

Рой крылаты ўжо збудзіўся,
Ўсюды з кветак пах разплыўся,
Пчолы й птушкі ўжо ад раньня
Пачалі сваё гуляньня.

Ой, каб ты ды не сьвяціла,
Жыць было-бы тут ня міла,
Дык ня сходзь, ня сходзь нам з неба,
Бо цябе нам сонца трэба!

# Пры каміне.

(з расейскага)

Ты сядзіш адзінока і маркотна глядзіш,
Што так сумна камін дагарае,
І як полымя ў ім разгарыцца узвыж —
То паволі ізноў пагасае

Ты сумуеш? аб чым? аб мінуўшых мо'днях?
Што каханьня няма і прывета?
Дык шукаеш чаго ў пагарэўшых вуглях?
Не знайсьці ў іх адказу на гэта!

Пачакаеш яшчэ і ня будзе агнёў,
Што так лашчылі ветла і грэлі,
І астанецца толькі куча чорных вуглёў,
Што дагэтуль згарэць не пасьпелі.

О! павер, што каханьне той самы камін
Дзе згараюць усе лятуценьні,
І пагасьне яно, — ў сэрцы холад адзін.
А у прышласьці сьлёзы й цярпеньні...

## ДА...

Як зорка, што ў небе гуляе
І міла з-за хмарак мігне,
Як пэрла, як кветка жывая,
Так міла заўсёды Ты мне!

І хоць ад мяне Ты далёка,
Цябе не забуду, ой не!
Бо вельмі ўжо памяць глыбока
Запаўшы у серцы на дне.

Цябе дзень і ноч спамінаю,
І бачу заўсёды у сьне.
І толькі ўсьцяж я чакаю
Калі апічасьлівіш мяне?!

Калі ўжо зірнеш лятуценьне,
Прыхільна паглядам сваім
І ўрэшце разгоніш цярпеньне,
Што ные у сэрцы маім?!...

# Красуля.

(апавяданьне)

Ня жывем мы, пакутуем!
А за што—ня можам знаць...
Усьцяж адно навокал чуем:
Вось „наказ“: podatki płać.

Б. Друцкі.

Яшчэ год назад Дзьмітрук Галуб лічыўся самым багатым гаспадаром у сваёй вёсцы. Зямлі ня то каб меў ужо зашмат: усяго 12 дзесяцін. Але быў ён надта абароцісты, працавіты, ня піў, не буяніў, ды і ўва ўсім яму відавочна шанцавала. Пачаць з таго, што на месцы яго сялібы, спаленай як і ўся вёска казакамі ў 15 годзе — немцы пабудавалі пекны дамок, дзе жыў нейкі іхні камандант, ды пры ім некалькі розных баракаў. Вярнуўшыся з Расеі Дзьмітрук адразу меў і хату і гаспадарчыя будынкі, якія зрабіў з нямецкіх баракаў, нат' на лазьню хапіла. Праўда, баракі гэтыя і дом як і іншая будавіна нямецкая, калі прыйшлі легіоны у 19 годзе былі аб'яўлены казённымі, але Дзьмітрук нек выкруціў і будынкі засталіся за ім, хоць і шмат грошаў, як казалі, яму гэта каштавала. А грошы поўны капшэль прывёз ён з сабой з Расеі. Абароцістасьць ды шчасьце і там яму памаглі. Хто жабраком вярнуўся, а Дзьмітрук на дзьвёх падводах, з жарабком і каровай; а рознага дабра панавёз — дык поўныя вазы, як толькі мага ўвязаць.

Гэткім чынам у той час, калі суседзі толькі — толькі зьбіваліся на нейкую будавіну ды жывёліну — Дзьмітрук йшоў у гаспадарцы поўным ходам. І багацьце яго — расло проста на вачох усіх.

Няма дзіва, што і Дзьмітрук і яго дамаўнікі заўседы былі ў добрым гумары, жылі дружна бяз спрэчак, працавалі з усьмешкай ды песьняй.

Аднак прыйшоў канец дабрабыту і Дзьмітрука.

Як пачалі абкладываць усіх новымі падаткамі, дык Дзьмітрук проста ўзвыў. Зямля аказалася высокай катэгорыі, будынкі вялікія і многа іх; дом — аграмадны — прызналі „панскім“, пакояў налічылі штосьці аж 5, а вокнаў дык больш дзесятка. Дый і жывёлы было шмат. Тое — ды сёе, за тое, за другое, — бач і долі Дзьмітрука перасталі зайздраваць нат' бедныя. Прыдуць „наказы“ плаціць—хто плаце некалькі залатовак, а Дзьмітруку—адвальвай дзесяткамі!

Сьпярша нічога: плаціў. Але мала — па — малу ўсё цяжэй і цяжэй прыходзілася. Расейскія грошы якія меў — ня йшлі, прыйшлося цягнуць з гаспадаркі. І усё часьцей ды часьцей паказваўся Дзьмітрук маркотны, хмуры, усе больш чухаў патыліцу. А на кірмашох дык і поўпляшкай ужо не пагарджаў і вяртаўся да хаты пьяным. Пачаліся нялады ды спрэчкі ў сям'і...

А летась дайшло ўжо да таго, што за незаплату нейкага падатку — нат' апісалі багацея...

Вывярнуўся неяк і на гэты раз, не дапусьціў да ліцытацыі. Аднак, падпіўшы нек на хрэсь-

бінах у суседа Пётры, з якім быў вельмі дружны — калі зайшла гутарка аб сялянскам жыцьці — быцьці — вырваўся і Дзьмітрук з тым, што і яму прыйшла зусім — крышка.

— Прыдзецца скора і жывёліны збывацца — хмура сказаў ён.

А трэба сказаць, што жывёла ў Дзьмітрука была як на падбор. І коні і каровы, што прывёў іх з сабой з Расеі — былі ня простыя. Дый і сам Дзьмітрук і ўся яго сямья надта любілі сваю жывёліну і абхажвалі яе як ніхто. Ня дзіва тады, што коні былі як ільвы, а каровы — амаль ня у два разы большыя чым вясковыя. І меў іх ён ужо 3 штукі, ды двузімку — Красулю, як лань.

На гэтую двузімку здаўна ужо вайстрылі зубы суседкі. Ды дзе там! і падступу ня было! Дзьмітручыха як за дзіцянёй хадзіла за сваёй Красуляй, ды і сам Дзьмітрук сачыў за ёй куды больш чымся за сваім жарабком — пястунком.

Як вырвалася ў Дзьмітрука прызнаньне, што прыдзецца яму збываць жывёліну дык тут-жа адзін перад адным гаспадары і гаспадыні пачалі прасіць, каб неяк на выплату ці ў абмен — ён уступіў сваю двузімку.

Асабліва насядаў Пётра, узываючы да дружбы і г. д.

Дзьмітрук адмахваўся ад усіх. У канцы зазлаваўся, ды як грукне па сталу кулаком: — Ніхто з вас і ніколі, пакуль я жыў — Красулі ня возьме! Забажыўся ён: Хутчэй жыду прадам: хай зарэжа, прынамсі ня ўбачу...

Слова — па слову — паўздорыў Дзьмітрук з усімі з-за гэтай сваёй Красулі і ня пажагнаўшыся ні з кім выйшаў, пляскаючы дзьвярыма...

— Іш ты! казалі суседзі: гэткі ціхі чалавек, здаецца і мухі не абідзіць. А вось т'кі даняло й яго, захапіла пад нутро... Эх, ты! жыцьцё нашае! уздыхалі гаспадары...

. . . . . . . . . . . .

Прайшло некалькі месяцаў. Быў канец восені. Разам з дажджом і першымі сьняжынкамі з неба — пасыпаўся на вёску дождж „наказаў платнічых". Сяляне з сілаў выбіліся: што хто абаб'е паўкопку нейкага збожа — бач ужо трэ вязьці прадаваць, а грошы ў гміну...

Зацяўшы зубы і Дзьмітрук малаціў, вазіў. Аднак ураджай не дапісаў яму болей чым іншым. А, як гаворана ўжо вышэй — плаціць яму выпадала болей чым другім. І вось перад самымі Калядамі — прыехаў войт дый апісаў Дзьмітрука.

Той туды — сюды па суседзям. Але што-ж: жабрак у жабрака не нажабруе. Усе аднальково паабчысьціліся. Дый паўздорыў са многімі.

Няма рады — ратунку Дзьмітруку. Збожжа ці чаго іншага з ураджаю засталася толькі-толькі сабе на пражыцьцё. На насеньне — як Бог дасьць. Што тут прадаць? Каровы? Адна з малаком, рэшта — сьцельныя. Коні? А як-жа бяз коні застацца? Ды і цаны сходнай няма без кірмашу, а кірмаш — аж на Грамніцы...

Скрабаў — чухаў Дзьмітрук патыліцу дый... рашыўся...

Неяк раніцой уся вёска была пастаўлена на ногі: Галасілі ўва двары Дзьмітрука.

Суседкі туды: што? як? памёр хто, ці што?

Аказваецца — Дзьмітрук з жонкай сабраніся ў мястэчка прадаваць сваю Красулю...

Як па роднай галасіла баба.

Моўчкі, сьцяўшы зубы, хмура палысківаючы вачыма запрагаў каня Дзьмітрук.

Уся дзетвара грудзілася тут-жа, пахліпывала, шмыргала насамі...

Урэшце — паехалі.

І натоўп у сур'езным і маўкліва — панурым настроі, як прад дамавінай з нябошчыкам, расступіўся, даючы дарогу вазу Дзьмітрука з прывязанайззаду Красуляй...

. . . . . . . . . . . . .

Усю дарогу Дзьмітрук панура маўчаў. Як уставіўся вачыма ў дарогу на перадзі, так і сядзеў: палена — паленам. Быццам ня чуў хліпаньня жонкі, ня бачыў як ідзе конь. Нат' не падганяў яго...

І толькі даеджджаючы да мястэчка неяк уздрыгнуў, нібы апамятаваўся.

— Цыц там, баба! Годзе! Не выстаўляй гора на людзкія спадзіўкі! Ужо мястэчка... буркнуў Дзьмітрук і тут раптам няма—ведама за што пачаў сячы пугай і муштраваць каня.

Пры уезьдзе на трахт мястэчкавы ехала многа людзей. І амаль усе як і Дзьмітрук вязьлі нейкую жывёліну. Хто барана, хто аўцу, сьвіньню ці парася, а хто дык вёў карову ці перазімку.

— Бач, баба, ня мы адны... Усім так сама...

Думаеш каму лёгка?... забурчэў Дзьмітрук.

Вось і мястэчка. Яшчэ пры ўезьдзе — паміж едучых вазоў пачалі шмыгаць жыдкі. Мацаюць тавар, прытаргоўваюць. То там, то сям ужо нат па рукам ударaюць. Але мала: мужычкі не прадаюць, бо цэн яшчэ не даведаліся.



Дзьмітрука з бабай абляпіла цэлая хмара старых і малых купцоў. Відаць скацінка надта да смаку прыйшлася. Дый Дзьмітрук сам паміма волі, раўнуючы сваю Красулю да іншых бачыў што яна лепшая ад усіх. Зашчаміла сэрца яго, занылa.

Пагнаў каня не слухаючы прапазык жыдкоў. Аднак яго т'кі прытрымалі.

— Колькі хочаш? хочаш, я дам 100 злот?

— Ну, дабаўлю яшчэ пяток?... Бяры, будзеш шкадаваць... Скаціны, сяньня многа... Няслося са усіх бакоў.

— 200 і ні граша меней! крыкнуў Дзьмітрук са злосьцяй і зноў пагнаў каня.

Жыдкі адсталі. Зьбіліся ў кучу, загаргаталі, замахалі рукамі. Пасьля аддзяліўся адзін, дагнаў Дзьмітрука:

— Хочаш 120? Апошняя цана!

— Сказаў: 200... чаго лезеш? агрызнуўся Дзьмітрук.

Аплацілі „ўяздовыя“, яшчэ нейкія „фармальнасьці“ адбылі. Сталі на рынку.

Як вокам сягнуць стаялі вазы з жывёлай.

Дзьмітрук пайшоў параспытаць аб цэнах. Прыйшоў хмуры:

— Скаціны столькі навязьлі, што і купляць ня хочуць... Па 80 за добрую карову просяць,—панура сказаў жонцы.

Да Дзьмітруковага возу ўсьцяж падыходзілі купцы, абмацвалі Красулю з усіх бакоў, круцілі хвост, заглядвалі пад бруха, у горла, шчыпалі хрыбет. Аднак-жа адыходзілі маўчкі, нат' не пытаючыся цаны.

Дзьмітручысе йзноў на сьлёзы сабралася: — гэтак мучаюць жывёліну... хутчэй-бы ўжо... канец...

Падыходзілі ня толькі паадзінцы, былі і па некалькі. Падыйдуць, кожны пашчупае, пакруце, абгледзіць, нешта пагыргочуць дый далей.

— Што за аказія? думаў Дзьмітрук. Пры ўездзе так ухапіліся, а тутка—і ня гутараць?

Нарэшці, ужо добра спаўдня, калі рынак пачаў ужо разьежджацца, нейкі стары жыдок паважна падыйшоў да Дзьмітруковага возу. Доўга і старанна мацаў, штукаў, круціў, абгледваў Красулю.

— Колькі? коратка кінуў Дзьмітруку.

— Дзьве сотні... нясьмела нек вырвалася у таго.

— 200? Аж падскочыў жыд. Ны, ці ты звар'яцеў? Гэта-ж добрая карова будзе за сто. А тут—двузімка і 200?

— Але-ж гэта ня простая... А як ўкормлена... Гэта-ж агурок... ажывіўся Дзьмітрук.

— Пхе! агурак?! усьмяхнуўся жыд.

Пагледзіў Дзмітрук і здубеў: Красуля ня Красуля? Быццам яна, ды і ня яна. Бакі ўваліліся, галава апушчана, вочы тусклыя... І яна, гэткая быстрая ды вострая, стаіць як стоўп калі яе абмацвае жыд на усе бакі... Маланкай зазігацела думка, што жывеліна змучана дарогай, дый вось стаіць тут ужо паўдня, а колькі рук мацала, шчыпала ды круціла! Ізноў сьціснуў жаль сэрца, абіда на усіх, нянавісьць да купцоў, што вось так зьдзекваюцца над ім і яго жывёлай, бо купіць хочуць задарма...

А раніцой давалі 120! праняслося ў думках. Жыд йзноў пачаў абмацваць Красулю.

— Ну, хочаш, я дам як за карову — 70 запрапанаваў быццам з ласкі, нехаця...

— Мне давалі ужо 120, пры уездзе... замарматаў Дзьмітрок.

— Давалі? Ну, а чаму не аддаў?

— Пэйне-ж давалі. Вось ён даваў! ткнуў Дзьмітрок на жыдка які суліў яму грошы пры ўездзе і які як-раз падыйшоў да возу.

— Але, я суліў. Але добра што не купіў. Яна лепей выглядала. Ды і няведама шчэ было які будзе прывоз. Паясьняў той.

У малую хвіліну вокал Дзьмітруковага ваза сабраўся цэлы кагал. Загаргаталі, заспрэчаліся.

Ізноў кожны мацаў, круціў Красулю.

— Давай руку — падляцеў нейкі Юркі жыдок—хай мае прападае! Дам 80...

Схапіў за руку, ударыў сваёй далоняй. — Ну? гатова? згода? Наседаў ён на Дзьмітрука.

— Не-е... мала... не магу... марматаў той.

— Хочаш 85? Ны, апошняе слова: 90?

Ізноў б'юць па рукам. Адскоча адзін, другі хапае. Абступілі вокал, галдзяць, спрэчаюцца, нат' быццам лаюцца. Падскочыць каторы да Красулі тузьне яе, мацне, ды да Дзьмітрука, ды за руку яго:

— Бяры! апошняя цана! Б'юць ізноў па далоні.

Круціцца сярод гэтай банды як ашалелы Дзьмітрук, ірвуць яго хто куды і як. І рота некалі адчыніць. Галдзяць, тармошаць яго на усі бакі. А ззаду то той, то другі падсказвае:




У поўным табачнага дыму,...

— Бяры, калі ён дае... Ніхто с нас ня дасьць болей.

Праз момант тое самае ужо аб другім, які накідвае пару залатовак...

Здурэў зусім Дзьмітрук. Жывой і варухлівай сьцяной аддзялі яго жыды ад возу, Красулі. Забыўся ён што прадае яе, сваю любоню, пяшчотку...

— Вось табе самае апошняе: 100 і мой магарыч—бутэлька гарэлкі і закуска — як праз сон чуець ён прапазыку.

Ня памятаваў добра Дзьмітрук — даў сваю згоду ці не. Нехта біў яго па рукам. Нехта сунуў пад вочы пачку паперкаў... Нехта збоку азяў пад руку і павеў. Недзе-блізка-калёка пачуўся ціхі плач бабы. енк: „красуля, красулечка мая... род...нень-кая“...

Пайшоў за павадыром. Крыху прыйшоў у сябе як выйшлі з рынкавага натаўпу. Агледзіўся. Пабач з ім йшоў нейкі рыжы жыдок. Два другіх —йшлі з заду. А там, за імі яшчэ адзін — вядзе некуды у бок жывеліну. Красуля? Быццам яна...

Рвануўся. Нешта быццам апала пад сэрцам.

Неяк адразу, зусім ясна уцяміў, што Красулі няма, азаместа яе — вагнём палыхнула за пазухай пачка паперкаў. Ўспомніў скогат бабы і дзяцеў раніцай...

Нічога,—усьцяшаў сябе—аплачу падаткі, ня будуць ліцытаваць..... І раптам няма ведама скуль ўспомнілася: а магарыч? цэлая бутэлька!...

— Дзе-ж магарыч твой? зьвярнуўся да жыдка.

— Пайдзем, пайдзем. А як-жа. Я нат' жонку тваю запрасіў. Хай і баба выпье. Там, на возе мой сын пасядзіць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ў поўным табачнага дыму, паху людскога поту, гарэлкі, селядцоў і яшчэ нечага, нізкім



А вось, што гад!...

і цёмным пакоі мястэчковай „рэстарацыі“ сідзеў Дзьмітрук з некалькімі сялянамі. Некаторых ня знаў нат зусім. На стале прад імі стаяла пара ужо пачарых бутэлек з гарэлкай і півам, на бруднай талерцы — ляжалі селядцы і кавалкі хлеба раскіданыя па ўсяму аалітаму гарэлкай і півам сталу.

Магарыч даўно ужо скончылі. Жыдкі некуды зьгінулі. Жонка пайшла да возу. Ня еўшы амаль ўвесь дзень Дзьмітрук жыва ахмялеў і хоць маніўся пайсьці тое — сёе купіць, ды загаманіўся з другімі. Ды і думкі мітусіліся у галаве нядобрыя, нудныя, жудасныя. Успамінаўся выезд з дому, журба бабы, дзяцей... А суседзі?... Зашчаміла пад сэрцам. А тут вокал таксама як і ён запіваюць сваю скацінку, такжа мо' бабскія сьлезы, сваю журбу... Падсеў да суседняга стала. Пачаставалі. Хлібнуў са усімі. Пасьля сам паставіў, частаваў некага... Пайшлі гутаркі нудныя, неяк цяжкімі, быццам воламі налітымі языкамі высказваліся балячкі. Бядавалі над лёсам, і усе гутаркі зхадзілі на адное: падаткі заядаюць. Жалелі праданую скацінку, неадзін усхліпнуў п'янымі сьлёзамі...

І пілі, пілі да паўсьмерці...

Дзьмітрок абаперся аб стол лакцямі, палажыў на іх галаву і застыў так. Нейкія абрыўкі мысьляў таўкліся у галаве, нейкія вобразы паказваліся і зьнікалі. Красуля, войт, жонка, жыды, дзеці мітусіліся быццам прад самымі вачыма. У пэўны мамэнт як жывая устала красуля і так умільна—просячы пагледзіла, быццам прасіла нечага. Вось — вось замычыць — скажаць...

Падняўся з-за стала, пайшоў да выхаду.

Лёгка — марознае паветра крыху асьвяжыла яго. Аднак ня мог ўцяміць што і як трэба яму. Чуў, што нешта трэба, мусіць, але ня мог уцяміць што і як.

Раптам палыснула сьвядомасьць: Красулі няма! Назаўсёды! Зарэжуць яе жыды! З'ядуць! І я сам... аддаў пад... нож...

Застанавіўся. Кругом хадзілі, гаманілі. Рынак ўжо амаль зусім апусьцеў.

Пасунуўся да возу. А сэрца ныла і злосьць ўздымалася на усіх, за усе: за красулю, падаткі, магарыч...

Баба сядзіць хмурая, сплаканая, сярдзітая, крыху відаць захмялеўшая.

— Зглумілі цябе жыды. Задарма аддаў красулю, злобна кажа Дзьмітруку. Чула я што жыды уразжа прадалі яе нейкаму пану за 180 залатых...

— 180? Дрыгануў Дзьмітрук. Ах, гады! Я ім! я ім!... Злосьць, што нагарала увесь час запаліла вострым полымем. Ня памятуючы сябе, раскідваючы шырока ногі, сьціснуўшы кулакі пайшоў шпарка уперад па рынку, бяз мэты, ось так, куды вочы і ногі нясуць. Чуў патрэбу руху, нейкага шалу. Бяз гэтага здавалася задыхнецца. А ўнутры нешта паліла, таўкала...

Няўделёку наткнуўся на рыжага жыдка, што фундаваў магарыч.

— Гэта ты купіў красулю у мяне? падступіў да яго.

— Я, ну дык і што?

— А вось што, гад пархаты! Загрымеу Дзьмітрук і са ўзяго маху заляпіў кулаком у самы твар жыдка. І яшчэ і яшчэ раз. Яму — не яму — ня памятаў. Усё роўна: махаў направа і налева абы біць. За красулю! за красулю! крычэў як ашалелы і біў, біў...



Узьняўся гвалт, штурханіна. Зьявілася паліцыя. Ледзь ўнялі азьвярэлага мужыка і завязанага пацягнулі на пастарунак...

*Дзяцька Бранук.*

І. ЖЫЛКА.

# Вільня.*)

Калі сябры нам гудзяць згубаю
І ворагі прарочаць скон, —
Тады к Табе, о Вільня любая,
Прыводзяць згадкі у палон.

У маіх лятунках ты — ўладарная,
Пануеш ты харашыня: —
Завулкаў сон і ціш кляштарная,
Вяльлі празрыстай глыбіня;

Вялікай вуліцы экзотыка,
Тэатры, кіно, шпіталі;
І маліцьвенна ўзносіць готыка
Да неба тонкія шпілі;

Сьвятая Ганна — сьпеў; напеўнасьцю
Салодка ўзрушаны ўсягды;
А поруч з візантыйскай пэўнасьцю
Царква прысела ля вады;

У вечар за гарой трахкрыжнаю
Палае захаду пажар,
Як знак, што веліччу аблыжнаю
Яна ня выкліча ахвяр;

І плюск Вялейкі, хвалі ветрыка
Люляюць Бэрнардынскі сад;
І мігаціць праз ноч электрыка
У зацёмкаў мескіх шалы чад;

Плыве па вулках пыха панская,
Распуста, блуднасьць і мана;
І ярасьць жорсткая, паганская
Бліскае ў вочах літвіна;

У жыдоўскім гетто — дробязь, клопаты
І аб Сыоне сны ў туман;
І гэткі-ж сум і тыя-ж допыты
Вядуць тапολі Базыльлян;

А там—па-над мурамі даўнымі,
Дзе места ўсенькае відно,
Руіна думамі дзяржаўнымі
Гадае там: чые яно?

Але ўжо лёс рукой няўхільнаю
Загад вызначвае з вякоў:
Усё магутней б'е пад Вільняю
Прыбой нямоўкнучы з палёў.

Ўсё пераможней нястрыманае
Стыхіі шум і бурны круг...
О, места роднае, каханае,
Цябе зальле крывіцкі рух!

*) Гэты дасканальны верш з'яўляецца адным з апошніх твораў талентнага песьняра, дзеля чаго не ўвайшоў у зборнік „На ростані", а толькі друкаваўся у аднэй з мала-пашыраных беларускіх часопісаў. З гэтае прычыны зьмяшчаем тут у мэтах папулярызацыі.

# Дахапаліся!..

**Правінцыяльныя абразкі з недаўняй мінуўшчыны.**

**Асобы:**

1. Язэп — мяшчанін.
2. Марта — яго жонка.
3. Гаповіч — прыватны чалавек службы.
4. Бурмістр аднаго мястэчка.
5. Дзяргач, яго памочнік.
6. Кляпсэда — магістр. кватэровы урадовы.
7. Селянін 1.
8. „ 2.
9. „ 3.
10. Бабылка, мяшчанка бедная.
11. Малец — пасыльны.
12. Цывільны — рэвізор.
13. Абцяпкін.
14. Аго жонка.
15. Прадстаўнік староства.
16. Камісар паліцыі.
17. Паліцэйскі.
18. „

## АБРАЗ І.

Мяшчанская хата. Абразы, стол, зэдлікі; зьлева — вакно, справа — руская печка.

### Зьява І.

Язэп і Марта. Язэп стругае пруты лазы да кошыка. Марта скрабе бульбу.

**Язэп** (*сярдзіта*): Ці чуеш, Марта?
**Марта**: А што?
**Язэп**: Што будзем рабіць з кватэрай? Магістрат чэпіцца ізноў: сягоньня наляпілі карту на дзьвярох, каб іх...
**Марта** (*спакойна*): Гэта ўжо пяты раз. Дзеці адарвалі тыя — дадуць рады й гэтай.
**Язэп**: Дзеці, кажаш ты? Да адказу даўно пацягнулі-б нас за зрываньне, каб мелі права, але яны самавольна рэквізуюць сабе кватэры, як і вайной рабілі.
**Марта**: Каб каму пажаліцца, Язэп.
**Язэп**: Каму тут... на мейсцы — невядома хто з іх старшы, а да Вільні ці Аршавы падаць жа-

лабу, дык і адвакат і папера з маркамі шмат каштаваць будуць, а толк ці будзе — не вядома.

**Марта**: Гэтак вось і церпіш чалавек.

Зьява II.

Тыя самыя і Агап Гаповіч.

**Гаповіч** (*вясёла*): Дзень добры паном! (*абглядаецца*). Ці туды я папаў?

**Язэп**: А куды мецілiся?

**Гаповіч** (*ідучы ў кут*): Да гаспадара таго, наўпроць-вольнага, будынку. Пакіравалі мяне сюды.

**Язэп**: Гэта да нас. (
**Марта**: Гэта да нас ( (*разам*).

**Язэп**: Прашу садзіцца адпачыць, бо мне здаецца, пан бягом бег, або ўцякаў, або даганяў каго; гэтак выглядае змарыўшыся... і пот руччом:

**Гаповіч**: Ні тое ні гэта! (*выціраe пот, расшпіляецца*). Я даведаўся ад знаёмага, што ў пана ёсьць вольная кватэра, дык са службы ляцеў сюды, каб не захапілі іншыя.

**Язэп**: Не захопіце мусіць і вы, бо ўжо магістрат наляпіў на дзьвярох паперу і дарма хоча пасадзіць...

**Гаповіч** (*зьдзіўлена*). Ці маюць яны права?! Вайны-ж няма!

**Марта**: Яны робюць на спробу: а можа ўдасца! Але я пастанавіла нікога ня пусьціць дарма хоць-бы сабе і з магістрату... і ня пушчу.

**Язэп**: Колькі разоў прыходзілі ўжо...

**Гаповіч**: На міласьць Боскую, што мне рабіць з жонкаю і дзеткамі?! (*думае*). Я і грошы добрыя даў-бы... прыехалі, на пляцу сядзяць... што рабіць?

**Язэп**: Схадзі да магістрату.

**Гаповіч**: Дрэнная справа... (*надумаўшы*). Ну, а калі ўдасца там дазвол атрымаць, колькі трэба будзе вам у год кватэрных плаціць?

**Язэп**: Мы ўжо пастанавілі аддаць кватэру за трыццаць рублёў залатых.

**Гаповіч** (*задумаўшыся*): Гм... гэта дорага... Але жонка на пляцу... (*чэша за вухам*). Ну спрабую да магістрату, — там жа людзі. Бывайце здаровы! (*ідзе да дзьвярэй*).

**Язэп**: Дай жа Божа ўдачы!

**Марта**: Шчасьлівенька!

**Гаповіч** (*вярнуўшыся*). Вось яшчэ справа ў чым: я хацеў-бы, каб кватэра была за мной, дык мусіць задатак патрэбны панам...

**Язэп**: Ня трэба, панок! Мы і без задатку верым вам. Дабівайцеся дазволу ад магістрату.

**Гаповіч**: Да заўтрага ўсё выясьніцца.

**Язэп**: Да заўтрага і кватэра за вамі лічыцца!

**Гаповіч**: Дзякую! бывайце...

Заслона.

## АБРАЗ II.

Зьява 1.

Магістрат. За загародкаю сядзіць бурмістр, яго памоцнік Дзяргач, далей Кляпсэда. Пры дзьвярох трое сялян з пугамі і клумкамі, толькі што ад вазоу.

**Дзяргач** (*сярдзіта*): Ну, дык плаціце грошы за ўезд на рынак!

**1 сялянін**: Паночак! Я-ж нічога не вязу на рынак... я мальца толькі да школы...

**Дзяргач** (*аўтаматычна*): Плаці ад возу тры тысячы.

**1 сялянін**: Дык-жа-ж гэта несправядлівасьць (*выймае грошы*).

**2 сялянін**: А мне колькі плаціць?

**Дзяргач**: А што вязеш?..

**2 сялянін**: Аднаго парасёнка, далібог!

**Дзяргач**: Плаці сем тысячаў.

**2 сялянін**: Ці ня можна панок таней крыху... ды і драбніцы ня хопіць... я заплаціў-бы лепей едучы з рынку.

**Дзяргач**: Ня можна. Плаці крупнымі — дадзём рэшту.

**3 сялянін**: Дык і мне трэба мусіць плаціць?

**Дзяргач**: Што вязеш?..

**3 сялянін**: Ды бабу хворую і курыцу за фатыгу доктару.

**Дзяргач**: Пяць тысячаў...

**3 сялянін** (*круціць галавой і дастае грошы*).

**Дзяргач**: (*атрымоўваючы грошы ад усіх*). Ці трэба квітанцыі вам пісаць?

**1 сялянін і 2 сялянін**: На хваробу нам яны!

**3 сялянін**: А мне напішыце, пан, каб другі раз не спаганялі платы.

**1 сялянін**: І мне напішыце.

**2 сялянін**: І я прашу...

Зьява 2.

Тыя самыя і Гаповіч.

**Гаповіч**: Дзень добры паном!

**Усе чыноўнікі**: Добры дзень!

(Сяляне выходзяць).

**Гаповіч**: Ці магу я ціханька з панам бурмістрам пагаварыць аб адным дужа важным інтарэсе?

**Дзяргач**: Кажыце — мы ўсе ў вадно.

Чыноўнікі усе глядзяць на яго.

**Бурмістр** (*падае праз загародку руку*): Гаварыце. Мы як адзін чалавек слухаем і... дзелімся пасьля... чым вы думаеце, га? (*сьмяецца хітра*).

**Гаповіч** (*стыдліва*): Ну мусіць-жа-ж грашыма, ці...

**Бурмістр**: Хавай Божа! Што вы ерунду гэткую... Думкамі сваімі дзелімся паміж сабой, вось чым!

**Гаповіч**: Ага! Гэтак? выбачце, калі ласка... не дадумаўся, бо й няма часу (*кашляе*). Я ў справе кватэры на Хлеўнай пад № адзінаццатым.

**Дзяргач**: Ага!

Чыноўнікі значуча пераглядаюцца.

**Гаповіч**: Там вісіць магістрацкая паперка, дык ці ня можна было-б яе адтуль, па-прыяцельскаму, зьняць?

**Бурмістр** (*робіць міну пярэчлівую а Дзяргач і іншыя лісьцяць кніжкі*).

**Бурмістр**: Ня можна! Туды маем ужо дваццацёх кандыдатаў.

**Гаповіч**: Гаспадар казаў, што дармовых вашых кандыдатаў ня пусьціць.

**Дзяргач**: Мы яго змусім.

**Гаповіч**: А ці цяпэр вайна, што паны гэтак робіце з вольнымі людзьмі бяз згоды і закону?

**Дзяргач**: Нам усё роўна!

**Бурмістр**: Мы самі закон!

**Гаповіч**: Зьмілуйцеся! пусьціце мяне туды! Я-ж не магу жонку з дзяцьмі трымаць на пляцу.

**Бурмістр**: Ня можам.
**Дзяргач**: Ні якім парадкам.
**Гаповіч** (*ціхэй*): Нічога не пашкадую... уступіце мне тую кватэру. Я-ж таксама чалавек, — маю права жыць... і не дарма туды хачу ўлезьці... Нічога не пашкадую.
**Бурмістр**: Калі вы так дакляруеце, дык мы пойдзем на ўступкі.
**Гаповіч**: Дужа рад... дзякую.
**Бурмістр**: Ці пусьціце вы на кватэру да сябе аднаго нежанатага чыноўніка?
**Гаповіч**: Нашто гэткі варунак?
**Дзяргач**: Іначай ня можам!
**Бурмістр**: Іначай ня можам!
**Гаповіч**: Ня маю выхаду... прыму на кватэру... хай сабе... жонка сядзіць на пляцу...
**Дзяргач** (*падаючы паперу*). Пішэце расьпіску. (*Да Кляпсэтай*): Зьніміце рэквізыцыю сягоняшняй дады.
**Гаповіч**: Аддзякую, паночкі, за гэта: будзем-жа бачыцца... маю вось срыбра і золата... (*звоніць кішанем*). Пабягу за сямейкай... Бывайце здаровенькі!

Цісьче усім рукі і выбягае. Усе здаволены.

**Дзяргач**: Відаць багаты! Можа што і перападзе нашаму брату.
**Бурмістр**: А і бывалы ён!.. гэтак ясна дакляраваў срыбра і таму падобнае. Гэта-ж любога чалавека ня „токма-што" чыноўніка беднага змуціш...
**Дзяргач**: Праўда, пане бурмістру! А добра-б было... (*пацірае рукі*).
**Кляпсэда**: Дай-жа Божа!

Зьява 3.

Тыя самыя і бабылка.

**Дзяргач**: Што табе, бабка, трэба?
**Бабылка**: Прыйшла, пан, грошы плаціць.
**Дзяргач**: Давай, давай! Мы не адрачомся.
**Бабылка** (*недаверчыва*): Падаткі ад быдла тут плоюцца?
**Бурмістр**: Тут!
**Дзяргач**: Тут!
**Бабылка** (*плачліва*): Панок даражэнькі... што я вас буду прасіць... у павестцы напісана, а што, дык, да-душы, ня ведаю.
**Дзяргач** (*бярэ і чытае*): „Належыцца падатку ад Лявонавай за парасёнка две тысячы, ад авечкі тры тысячы ад сабакі пять тысячаў... разам дзесяць тысячаў.
**Бабылка**: Аж дзесяць тысячаў!
**Дзяргач**: Ну плаці, не аднімай часу.
**Бабылка**: Але-ж парасёнка загрызьлі сабакі Ацяробачкі і Зьмітрака, ля самага Рыгоравага плоту... таго самаго дня, як пан сьпісаў у мяне жывёлу; сабака недзе зьбег — каторы дзень німашака... Калі і плаціць, дык хіба за авечку...
**Дзяргач**: Не, ня можна. Давай сюды павестку. Плаці грошы!
**Бабылка** (*падае павестку, плачліва*): Пашкадуйце, пан. Да-душы, німа чым нават за авечку... Сама адна жыву... ніадкуль нічога ніякага.
**Дзяргач** (*піша ў кніжку, пасьля ўстаўшы крычыць*): Плаці грошы. Не кажы пустога, баба!
**Бабылка** (*раскручвае брудную хустку з грашмі, плачліва*): Дык і за парасёнка? і за сабаку?

Уваходзяць яшчэ бабылі з падаткамі.

Заслона.

АБРАЗ III.

Зьява І.

Сцэна тая самая. Вакно завешана, дзьверы адчынены; чуваць з бакоукі галасы падпіушых.

Голас **Дзяргача**. За ваша, пане бурмістру, здароўе. Урра!
Гол. **Кляпсэды**. Урра! няхай жыве пан бурмістр!
Гол. **Бурмістра**. Вельмі дзякую... (*п'юць*).
Гол. **Дзяргача**. А ўсе-ткі стрымаў слова свае гэты самы Гаповіч. Добры лікерчык!
Гол. **Кляпсэды**. Дужа добры.
Гол. **Бурмістра**. Надта смачны!
Гол. **Дзяргача**. А ўсе-ткі малайчына наш кватэровы пан Кляпсэда, што наклейку не празеваў прыляпіць туды,—вось і лікерчык, як Бог даў.
Гол. **Кляпсэды**. Я нюхаю ўсюды: ад мяне ня скрыецца ніводная вольная будыніна... як толькі — ўраз-жа наклейку...
Гол. **Бурмістра**. А ці добрая кватэра папалася Гаповічу?
Гол. **Дзяргача**. Дрэнь... адзін пакоік...
Гол. **Бурмістра**. Гм... дык добра мы яго абставілі: усадзім дарма яму чыноўніка, бач, і ад таго якая бутэліна пападзе.
Гол. **Дзяргача**. Ну вя іначай. П'ем здароўе нашага сумеснага і згоднага сяброўства!
Гол. **Кляспэда**. Няхай жыве!... хай жывуць мае наклейкі!...
Гол. **Бурмістра**. Хай... на вечныя часы!
Гол. **Дзяргача**. Урррраaa!!!

Зьява II.

Уваходзіць малец з торбай цукру за плячыма.

**Малец** (*абглядаецца*). Ні жывой душы!..

Зьява III.

На сцэну з бакоукі выглядае Дзяргач.

**Дзяргач**. А што трэба?
**Малец**. Пан Гаповіч цукру прыслаў пану бурмістру. Казаў, разам будзе тут фунтаў сорак.

Зьява IV.

Паказваюцца галовы бурмістра і Кляпсэды.

**Дзяргач**. А грошы трэба плаціць?
**Малец**. Нічога пан Гаповіч не казаў — ня ведаю.
**Бурмістр** (*выходзючы*). Ну дык мы ведаем... (*д.. мальца*). Ідзі сабе дамоў, скажы: „дзякуй"
**Дзяргач** (*бярэ цукер — ўсе трое ля цукру*).
**Дзяргач**. Ну дык будзем дзяліць.
**Кляпсэда**. А за вагамі ісьці?
**Дзяргач**. Мы шклянкамі падзелім... бярэце стуль сабе паперу.
**Кляпсэда** (*асьцярагаючы*). Можа хто зайдзе?
**Дзяргач**. Цяпер позна—не павінна... хіба які жыд...
**Бурмістр** (*прабуе замкнуць дзьверы*). Дрэнна што не дароблен замок яшчэ дагэтуль у дзьверах... вось і замкнуліся-б.
**Кляспэда**. Трэба загарадзіць. (*стаўляе пры дзьвярох табурэт на табурэт*).
**Дзяргач** (*дзеліць*). Першая шклянка бурмістру, другая — памоцніку... трэцяя — кватэровому... дзесятая... адзінаццатая.. (*стук у дзьверы; усе значуча пераглядаюцца*), дванаццатая... тры... (*стук*) трынаццатая...
**Кляпсэда** (*ціха*). Здаецца нехта за дзьвярыма..

Дзьверы адчыняюцца, табарэты ляцяць у бакі.

### Зьява V.

Цывільны з падарожнаю скрыначкай з жоутай скуры і тыя самыя.

**Цывільны** (*кланяецца — зьдзіўлёнка*). Выбачайце, здаецца не ў пару трапіў?

*Усе нездаволены.*

**Бурмістр** (*паклаўшы на бок паперу*). Чым маю служыць вашэці?

**Цывільны**... Кватэру для сябе шукаю. Толькі што са станцыі...

**Дзяргач** (*да Кляпсэды значуча*). Вось яно!...

**Цывільны**... Чуў я, што ўсе кватэры вольныя у магістрацкіх рукох...

**Бурмістр**. Ага, а на доўга пану? Мы ўсей душой усім...

**Дзяргач** (*на бок да Кляпсэды*). Разявяка... трэба каб той прасіў...

**Цывільны**. Мне кватэру на якіх два-тры тыдні папрашу, калі ласка.

**Дзяргач** (*да бурмістра*). Да Гаповіча... да часу... можна-б нават дарма... пасьля абгаворым.

**Бурмістр**. Згода. (*да цывільнага*). Пойдзем — пакажу... там дарма будзеце... але.... вядома... пасьля... ведаеце самі...

**Цывільны**. Калі ласка. Я ў даўгу, не застануся. Бывайце здаровы! (*выходзіць з бурмістрам*).

**Дзяргач** (*да Кляпсэды*). А мы скончым дзяліцца...

### Зьява VI.

Дзяргач і Кляпсэда. Уваходзяць Абцяпкін з жонкай.

**Абцяпкін з жонкай**. Вечар добры!

**Дзяргач і Кляспэда**. Добры вечар!

**Дзяргач** (*просіць садзіцца, падымаючы з падлогі табарэты падае іх гасьцям*). Якім трапункам паважаныя паны сюды зьявіліся? Чым можам служыць?

**Абцяпкін** (*асьцярожліва абглядаецца навакол, ціха*). Нікога і нічога німа ў вас небясьпечнага?

**Кляпсэда**. Нічога, сьмела!

**Дзяргач**. Гукайце сьмела: нават бурмістра нашага чорт пагнаў недзе па інтарэсах.

**Абцяпкін** (*з палёгкай ўздыхнуў*)... і ён па інтарэсах,... ах гэтыя інтарэсы? Аж галава баліць ужо ад іх усякаму...

**Дзяргач**. А што такога? Нешта пан сягоньня надта злы выгляд маеце... нібы сэрцам церпіце?

### Зьява VII.

Тыя самыя і бурмістр.

**Бурмістр**. А!... вечар добры! (*вітаецца*).

**Абцяпкініха**. Добры, добры вечар!

**Абцяпкін**... Ня дужа добры...

**Дзяргач**. Ну, кажыце-ж паночку ў чым справа. Можа-б мы чым памаглі? (*да бурмістра*). Нешта з імі няладнае.

**Абцяпкін**. Трудна. Нічога не паможаце... каб самі ўратаваліся ды на асьцярожнасьці былі... мы ужо прапалі з жонкай мусіць.

**Абцяпкініха**. Можа як выкруцімся: ня трацьнадзеі.

**Бурмістр** (*трывожліва*). Што такое... у чым справа.

*Абцяпкіны садзяцца, навакол іх усе іншыя.*

**Дзяргач**. Дзіва! Якое няшчасьце здарылася з вамі?

**Абцяпкін**. Так, няшчасьце! Вядома мусіць і вам, чым я займаюся, — так як і мне ведама аб усім, чым вы адзначаецеся... (*Усе пераглянуўшыся.*) Вядома, вядома!

**Абцяпкін**. Дык вось сягоньня зраньня, толькі ўсталі мы аб гадзіне адзінаццатай, аж стукаюць нехта ў дзьверы.

**Абцяпкініха**. Так, так, у самыя дзьверы.

**Абцяпкін**. Не перабівай, мамачка, я сам... Адчыняюцца дзьверы і ўваходзіць чалавек, багата апрануты са скрыначкай падарожнай з жоўтай скуры ў руках... (*Усе пераглядаюцца*)... прывітаўшыся... са мной...

**Абцяпкініха** (*жыва*). Не, са мной спачатку!

**Абцяпкін**. Кінь, мамачка, не перашкаджай гаварыць... Прывітаўся, значыцца, з намі і ціха да мяне самога, адвёўшы ў бок так і так, кажа: „на міласьць Боскую, дастаньце мне абыватэльства і пашпарт"... (*да чыноўніка*) толькі-ж пры вас кажу гэтак, бо вас ведаю, вы — мяне!

**Бурмістр**. Вядома!

**Дзяргач**. Гэтак, гэтак!

**Кляпсэда**. А як-жа!

**Абцяпкін**. „Абцяпайце, кажа, гэтыя справы: абыватэльства, значыцца, і пашпарт, дык марак не пажалею, а нават і золата"... На міласьць Боскую, просіць, на Бога заклінаецца (*да жонкі*). Мы з мамачкай ніколі-б не падумалі сумленьне за золата або за маркі прадаваць, невядома каму дабівацца абыватэльства... Маем-жа крыху дзядоўскага гонару.

**Жонка**. Але, як на Бога просіць, — клянецца...

**Абцяпкін**. Так, так мамачка! немагчыма было адказаць... і мы... на першы пачатак атрымалі ад яго залатую дзесятку... Ён запісаў наша прозьвішча і выйшаў.

**Дзяргач**. Ну і што тут за бяда? Дзякуй Богу!

**Абцяпкін**. Вядома было-б добра: абцяпалі-б з мамачкай і іншымі падручнымі абыватэльства яму але вось тутака-то і ёсьць загвоздка...

**Жонка**. Ён і бяз нас мае абыватэльства.

**Абцяпкін**. Знаёмы жыдок паведаміў мяне сягоньня нядаўна, што патаемна прыехаў ад ваяводы рэвізор і, па ўсіх прыкметах, ён самы прасіў у мяне абыватэльства... і

(*Чыноўнікі зьдзіўлёны, перастрашаны, задзіраюць насы, вочы казеляць*).

**Абцяпкін**. Спадзявайцеся яго ў сябе, паночкі, бо і за вамі ня мала грашкоў...

**Дзяргач**. (*растапырыў рукі—да бурмістра*) Ён быў... у нас... (*да Абцяпкіных*) Ён быў... (*За дзьвярыма чуваць тупаніну, дзьверы адчыняюцца*).

### Зьява VIII.

Тыя самыя Уваходзіць цывільны са скрыначкай, прадстаўнік ад старостава, камісар паліцыі і двух паліцэйскіх.

Чыноунікі і Абцяпкіны дзе былі, там і застылі, перастрашанна наставіушы вочы на прыйшоушых.

Заслона.

*А. Васілеўскі.*

Рэдактар А. Ганчарэнка. Выдавец Т-ва „Беларуская Хатка ў Вільні".

Беларуская друк. ім. Ф. Скарыны.—Вільня, Людвісарская 1.